*Жыве Беларусь!*

# БЕЛАРУС

166-34 Gothic Drive
Jamaica, NY 11432

BIELARUS/Belarusan newspaper in Free World ISSN 1054-9455
Published by the Belarusan American Association, Inc.

№ 576 Студзень 2011 г.
Год выданьня 61

## Шаноўныя чытачы!

Першы нумар нашай газэты ў надышоўшым 2011 годзе па традыцыі мусіў бы быць прысьвечаны сьвяточным справам - як сьвяткаваліся Каляды ў розных беларускіх асяродках, як беларусы сустракалі Новы год, якія пляны на новы год маюць беларускія арганізацыі ў замежжы і на Бацькаўшчыне. Ў гэтым выпуску вы знойдзеце інфармацыі пра сьвяты, пра іншыя навіны з жыцьця беларускай эміграцыі.

Але, галоўнаю тэмаю нумару мусілі стаць падзеі на Бацькаўшчыне – прэзыдэнцкія выбары 19 сьнежня 2010 і жорсткая расправа ўладаў з апазыцыяй, якая спадзявалася на дэмакратычныя свабодныя выбары, але сутыкнулася з хлусьнёй, падманам і фальсіфікацыямі. Шмат хто з вас, напэўна, назіраў за падзеямі праз Інтэрнэт, чытаў газэты і слухаў радыё. Але, не ўсім хапала часу штодзённа праседжваць гадзінамі каля кампутару і быць дастаткова інфармаваным пра тое, што адбывалася.

Наша рэдакцыя кожны дзень назірала за падзеямі праз розныя крыніцы інфармацыі, у выніку намі сфармаваны інфармацыйны блёк, які дае калі не поўнае, дык усё ж ў некаторай ступені дастатковае ўяўленьне пра важныя моманты тых сумных падзеяў. Прапануем вам гэты матэрыял, які дапаможа вам сарыентавацца і лепш зразумець усю значнасьць і лёсаноснасьць падзеяў 19 сьнежня і іх наступстваў у сучаснай гісторыі Беларусі.

*Рэдакцыя.*

## “Брудныя выбары”

19 сьнежня ў Беларусі прайшлі чарговыя прэзыдэнцкія выбары, чацьвёртыя па ліку (1994, 2001, 2006, 2010). Так, як і папярэднія, яны ад самага пачатку адбываліся з парушэньнем дэмакратычных нормаў. Як і раней галоўным кандыдатам на пасаду прэзыдэнта быў Аляксандр Лукашэнка і ўся систэма ўлады была скіраваная на тое, каб забясьпечыць ягонае пераабраньне.

Аднак, гэтым разам, загульваючы з Захадам, Лукашэнка дазволіў канкураваць з ім апазыцыйным кандыдатам. Але, як толькі адчуў небясьпеку не быць абраным, жорстка расправіўся са сваімі апанентамі і чарговы раз прысвоіў сабе ўладу шляхам фальсіфікацый. Цэнтравыбаркам Беларусі абвясьціў канчатковыя вынікі выбараў, паводле якіх Аляксандр Лукашэнка набраў амаль 79.67% галасоў выбарцаў. Астатнія кандыдаты, як сьцьвярджаюць улады, разам набралі менш за 13%.

У той жа час незалежныя назіральнікі сьцьвярджаюць, што Лукашэнка не набраў патрэбнай для абраньня колькасьці галасоў і ў гэтай сувязі павінен быў быць праведзены другі тур выбараў.

Апазыцыйныя кандыдаты заклікалі беларускіх грамадзян да акцыі пратэсту супроць парушэньняў і фальсіфікацый цягам выбарчай кампаніі і патрабаваць новых свабодных выбараў. Акцыя плянавалася ўвечары 19 сьнежня на Кастрычніцкай плошчы, але гэтая частка цэнтру Менску была блякаваная міліцыяй і дэманстрантам давялося ісьці на Плошчу Незалежнасьці, дзе і адбылася шматтысячны мітынг.



### Сэнс Плошчы:

***Уладзімір Някляеў:***

*”На Плошчы з намі адбываецца тое, што можа адбыцца толькі на ёй — і больш нідзе. На ёй мы яднаемся духам. На Плошчы мы пражываем гадзіны і дні ў той Беларусі, пра якую марым. Новыя выбары без Лукашэнкі – гэта новая Беларусь. Якая жыве і жыць будзе!”*

## Рада БНР заклікае Захад не прызнаваць вынікі выбараў



Рада Беларускай Народнай Рэспублікі выказвае пратэст з прычыны надзвычай брутальных дзеяньняў лукашэнкаўскага антыбеларускага рэжыму супраць удзельнікаў масавых акцыяў у Менску 19 сьнежня.

Рада БНР заклікае кіраўніцтвы краінаў Захаду не прызнаваць вынікі прэзыдэнцкіх выбараў у Беларусі, паколькі яны былі сфальшаваныя, а афіцыйна абвешчаны іх “пераможца” Аляксандар Лукашэнка ня меў канстытуцыйнага права балятавацца ў якасьці кандыдата.

У Беларусі павінны быць праведзены новыя прэзыдэнцкія выбары без удзелу Лукашэнкі, з удзелам прадстаўнікоў апазыцыйных кандыдатаў у выбарчых камісіях і пад максымальным кантролем міжнароднай супольнасьці.

Рада БНР заклікае краіны Захаду і міжнародныя арганізацыі выступіць у абарону прыхільнікаў дэмакратыі ў Беларусі. Рада БНР патрабуе неадкладнага вызваленьня Уладзімера Някляева, зьвезанага са шпіталя, іншых затрыманых кандыдатаў у прэзыдэнты і ўсіх затрыманых апазыцыйных актывістаў.

*20.12.2010*

## АБСЭ не прызнае выбары ў Беларусі свабоднымі і дэмакратычнымі

Выбары ў Беларусі нельга прызнаць свабоднымі і дэмакратычнымі, заявіў на прэс-канфэрэнцыі ў панядзелак 20 сьнежня ў Менску кіраўнік місіі часовых назіральнікаў Бюро дэмакратычных працэдураў і правоў чалавека АБСЭ Тоні Лойд.

"Беларусі яшчэ трэба будзе прайсьці вялікі шлях, каб выконваць свае абавязкі ў рамках АБСЭ", — заявіў Лойд.

## Падзеі ў Менску камэнтуе старшыня КХП БНФ Зянон Пазьняк:



”Гэтыя "выбары", якія адбыліся, безумоўна сфальсыфікаваныя. Па зьвестках нашых назіральнікаў, у Менску толькі на палове ўчасткаў быў цалкавіта прыход (50%) выбаршчыкаў. На астатніх – 35-45%. Па-другое, па зьвестках экзыт-полаў, Лукашэнка не набраў больш 30%. Яшчэ цікавы факт: нашыя назіральнікі мелі размовы зь людзьмі, якія рабілі афіцыйныя экзыт-полы для рэжыму. І ў прыватнай размове яны сказалі, што Лукашэнка набірае менш 30%, нават няпоўныя 30%. І гэта відавочна – што выбары сфальсфыфікаваныя як заўсёды…”

*Паводле Радыё Свабода*
*20.12.2010*

# Плошча 2010: кароткая хроніка падзеяў у асьвятленьні журналістаў Радыё Свабода

***Вечар 19 сьнежня***

**21.45** Калёна маніфэстантаў дайшла да плошчы Незалежнасьці. Мора людзей практычна ўсю яе запоўніла. Людзі скандуюць "Жыве Беларусь!", "Уході!", "Час мяняць лысую рэзіну", "Выбары без Лукашэнкі". Ля Дому ўраду пачаўся мітынг. Мікола Статкевіч паведаміў, што фармуецца працоўная група для перамоваў з урадам.

Дзясяткі сьцягоў, шчыльна стаяць людзі, моладзь. Абвешчана пра стварэньне Народнага руху за новыя свабодныя выбары, у якасьці чальцоў



новага ўраду прапанавана ўключыць усіх альтэрнатыўных кандыдатаў на прэзыдэнта. Мітынгоўцы скандуюць : "Жыве Беларусь". Цяжка рухацца, шмат людзей. Адчуваньне, як і на Плошчы 2006 году. На вуліцы - 10, высокая вільготнасьць. Закрыта мэтро, цягнікі не спыняюцца. Гучна з праспэкту грае расейская музыка. На прыступках палацу прафсаюзаў выступаюць кандыдаты Статкевіч, Саньнікаў. Міліцыянты праводзяць сябе стрымана.

**21.50** Рыгор Кастусёў зьвярнуўся да людзей, каб яны званілі сваім знаёмым з заклікам прыйсьці на плошчу Незалежнасьці, далучыцца да пратэсту. Людзі датэлефанавацца ня могуць, бо мабільная сувязь працуе зь перабоямі

**21.55** Уся плошча запоўненая людзьмі, сьцягамі. Людзі скандуюць "Сыходзь", "Верым, можам, пераможам". На помніку Леніна бел-чырвона-белыя сьцягі.

**22.00** Кіраўнік штабу Някляева Андрэй Дзьмітрыеў зачытаў заяву Народнага сходу, у якой заяўляецца аб непрызнаньні вынікаў выбараў і патрабаваньнем правесьці новыя выбары без Лукашэнкі.

**22.10** Ідзе нарада арганізатараў мітынгу. Абмяркоўваюцца наступныя дзеяньні. Людзі на плошчы скандуюць "Жыве Беларусь!", тэлефануюць сваім знаёмым, заклікаючы далучыцца да пратэсту.

**22.15** Пяць кандыдатаў на прэзыдэнта накіраваліся ў Дом ураду. Дзьмітры Вус, Андрэй Саньнікаў, Мікола Статкевіч, Віталь Рымашэўскі, Рыгор Кастусёў стаяць ля ўваходу ў Дом ураду.

На прыступках Дому ўраду пачалі адбывацца незразумелыя рэчы. Кандыдаты ў прэзыдэнты гэтым працэсам не кіравалі. Раптам нейкія маладыя людзі пачалі разьбіваць дзьверы на ўсім працягу уваходу. За кожнымі дзьвярыма ўнутры будынку былі барыкады. Яны былі зараней гатовыя.

Атрады АМАП і міліцыі вырваліся з Дому ў раду. Пачалася сутычка з маніфэстантамі.

Рымашэўскі назваў гэта "справакаванай акцыяй", арганізатары мітынгу яе не плянавалі. Дзьверы разьбівалі людзі нападпітку. Наўмысная правакацыя! Людзі працягваюць стаяць і скандаваць.

**22.55** Адбываецца мітынг. Толькі што выступіў старшыня ПЭН-цэнтру Андрэй Хадановіч.

**23.05** Кандыдаты на прэзыдэнта спрабавалі выклікаць каго-небудзь з урадоўцаў. Тым часам шыхты амапаўцаў разрэзалі маніфэстацыю на дзьве часткі. Адна зь іх засталася паміж Домам ураду і помнікам Леніна. Другая частка застаецца на плошчы Незалежнасьці. Кандыдаты на прэзыдэнта застаюцца, хутчэй за ўсё, ля будынку Дома ўраду. Запрашаюць да перамовы камандзіра брыгады спэцназу. У адказ міліцыянты пачалі зьбіваць людзей

АМАП адцясьняе людзей ад Дому ўраду. Спэцназаўцы выціскаюць людзей з плошчы, лупцуючы ўсіх дубінкамі.

**23.10** На зачышчанай пляцоўцы — акрываўлены сьцяг, кавалкі вопраткі. Пад'ехалі чатыры аўтазакі, відаць, хутка пачнецца хапун. Жорстка зьбіваюць людзей.

Людзей зьбіваюць і закідваюць у аўтазакі. Шмат людзей зьбітых да крыві ляжыць на асфальце.

**23.20** Спэцназаўцы вельмі жорстка зьбіваюць людзей. Жанчын зьбівалі нагамі. У аўтазакі загружалі шмат людзей.. На плошчы знаходзяцца пераважна спэцназаўцы. Яны спрабуюць дагнаць людзей, расьсекчы натоўп. Трывожны настрой. Людзі шыхтамі бягуць у бок Чырвонага касьцёлу. Ідзе зачыстка плошчы.

Спэцназаўцы атрымалі загад вярнуцца і пачалі зьбіваць людзей ля гатэлю «Менск». Пад зачыстку трапляюць мінакі. Спэцназаўцы зрабілі некалькі ланцугоў на ходніках, і людзей прапускаюць толькі тады, калі яны паказваюць нейкія пасьведчаньні.

**23.40** Ад плошчы Незалежнасьці ад'ехалі 16 машынаў з вайскоўцамі.

**23.45** Спэцназаўцы працягваюць зьбіваць моладзь нават у мэтро.

**23.50** Разагнаныя людзі не разыходзяцца. Іх расьсеклі на групы вакол плошчы. Журналістка знаходзіцца ля пераходу з плошчы Незалежнасьці да вуліцы Ленінградзкай. Туды падагналі зялёныя мазаўскія пасажырскія аўтобусы з надпісамі «Заказны», куды міліцыя закідвае дэманстрантаў.

**00.20** Каля ўнівэрсаму "Цэнтральны" моцна зьбіваюць людзей, расьсякаюць на малыя групы, выхопліваюць паасобку, цягнуць па зямлі, закідваюць у машыны.

**00.50** Праваабарончая арганізацыя «Вясна — 96» паведаміла, што «каля 200 чалавек на Акрэсьціна стаяць тварам да сьцяны з закручанымі за сьпіну рукамі. Многіх затрыманых у аўтазаках міліцыянты моцна зьбівалі нагамі. У раёне плошчы Незалежнасьці працягваюцца затрыманьні, пры гэтым моладзь жорстка зьбіваюць».





**Уладзімер Някляеў**

Кандыдат ў прэзыдэнты Уладзімер Някляеў не дайшоў да Плошчы, ён быў зьбіты людзьмі ў чорным па дарозе на мітынг і ноччу выкрадзены спецслужбамі са шпіталю, а пасьля апынуўся ў засьценках КДБ.

Каля 15-20 тысячаў чалавек (па іншых дадзеных да 40 тысяч) узялі ўдзел у акцыі пратэсту на Плошчы Незалежнасьці ў Менску. У выніку сотні людзей былі затрыманыя і зьбітыя, у тым ліку і кандыдаты на прэзыдэнта Някляеў, Саньнікаў, Кастусёў, Статкевіч, Рымашэўскі. Арганізатары заявілі, што акцыя будзе бестэрміновай і заклікалі ўсіх прыйсьці на плошчу Незалежнасьці ў панядзелак 20 сьнежня а 18-й гадзіне.



**Зьбіты міліцыянтамі на Плошчы і пасьля арыштаваны кандыдат ў прэзыдэнты Андрэй Саньнікаў**

# Арышты, галадоўкі, сьлёзы бацькоў і дзяцей

Сьпісы затрыманых і асуджаных за акцыю пратэсту на плошчы Незалежнасьці ў Менску 19 і 20 сьнежня працягваюць папаўняць імёны актывістаў апазыцыі. Супрацоўнікі міліцыі і КДБ круглыя суткі цікуюць за іхнімі кватэрамі, многіх затрымліваюць і адвозяць у суды.

*22.12.2010*



## Лявон Вольскі: Каляды ў кратах

*Рок-музыка Лявон Вольскі звярнуўся з заклікам павіншаваць асуджаных да арышту ўдзельнікаў мірнай акцыі пратэсту ў Мінску з надыходзячымі Калядамі і Новым годам.*

Браты і сёстры, мамы, таты...
Бы нейкі сон – Каляды ў кратах.
За вас перажываюць дзесьці
Браты і сёстры, жонкі, дзеці.

Калядны вечар у цямрэчы,
У палоне ценяў недарэчных...
Ды калі Вера і Любоў ёсьць,
Надзея пераможа боязь.

Хай пераможа Цуд Калядны
Драты, муры, замкі і краты,
Хай вас цяплом сагрэе Сьвята
Браты і сёстры, мамы, таты

## Былі кандыдатамі. Сталі вязьнямі




Сем з дзевяці кандыдатаў на прэзыдэнта былі затрыманыя пасьля акцыі пратэсту апазыцыі ў Менску. Сярод іх Рыгор Кастусёў, Аляксей Міхалевіч, Уладзімер Някляеў, Віталь Рымашэўскі, Андрэй Саньнікаў, Мікалай Статкевіч, Дзьмітры Вус. Кастусёва і Вуса адпусьцілі. Аляксандар Лукашэнка на прэс-канфэрэнцыі 20 сьнежня заявіў, што Някляеў знаходзіцца ў сьледчым ізалятары. Дзяржаўныя СМІ паведамляюць, што завадатары беспарадкаў у Менску арыштаваныя і супраць іх заведзеная справа паводле артыкула 293 (арганізацыя і ўдзел у масавых беспарадках).

Салідарнасьць са зьняволенымі

Каля турмы на вуліцы Акрэсьціна 21 сьнежня адбылася акцыя салідарнасьці з арыштаванымі ўдзельнікамі акцыі пратэсту "Плошча 2010". Яе арганізавалі лідэры палітычных партый і рухаў разам з актывістамі моладзевых арганізацый.

21 сьнежня ўлады назвалі лічбу затрыманых – 639, але і яна не была дакладнай. З улікам адпушчаных, дастаўленых у медустановы і зьмешчаных у СІЗА па крымінальных справах, колькасьць перавышала 700 чалавек. Цэнтр ізаляцыі правапарушальнікаў ня мог зьмясьціць столькі арыштаваных, таму 239 чалавек, па інфармацыі праваахоўных органаў, былі перавезеныя ў Жодзіна, у турму № 8, больш за 50 затрыманых жаночага полу перавялі ў ІЧУ Мінскага раёну.

Дзесяткі еўрапейскіх арганізацыяў асудзілі дзеяньні беларускіх уладаў. 20 сьнежня адкрыты зварот да прэзідэнта Беларусі з заклікам вызваліць сотні дэманстрантаў, журналістаў, палітыкаў, затрыманых за мірнае выражэньне сваёй думкі падпісалі арганізацыі Сеткі Дамоў правоў чалавека. Са зваротамі выступілі праваабарончая арганізацыя «Міжнародная амністыя», Міжнародная федэрацыя правоў чалавека (FIDH), Міжнародная федэрацыя журналістаў, Праваабарончая арганізацыя Freedom House, старшыня Еўрапарламенту Ежы Бузек, урады краінаў ЗША і Еўразьвязу.

У Менску пачаў працу Камітэт міжнароднага кантролю за сітуацыяй з правамі чалавека ў Беларусі. Утварыць яго пастанавіла 27 сьнежня Кааліцыя няўрадавых арганізацый краін АБСЭ. У Камітэт увайшлі каля 30 міжнародных арганізацый. Каб захаваць нэўтралітэт місіі ў адносінах да палітычнай сітуацыі, у склад Камітэту не ўваходзяць беларускія арганізацыі.

## Створаны Камітэт “Вызваленьне”

Родныя і блізкія арыштаваных па крымінальнай справе за падзеі 19 сьнежня ў Менску стварылі грамадзкі Камітэт "Вызваленьне". Галоўная мэта Камітэту– паспрыяць вызваленьню ўсіх тых, хто знаходзіцца ў СІЗА КДБ, і каго падазраюць у датычнасьці да масавых беспарадкаў у Менску,

У склад Камітэта ўвайшлі жонкі, бацькі і дзеці зьняволеных кандыдатаў на прэзыдэнта ды іх паплечнікаў. Яны накіравалі ліст кіраўніцтву Расеі, Эўразьвязу і ЗША з заклікам зрабіць усё магчымае для вызваленьня новых беларускіх палітвязьняў.

Заснавальнікі камітэту "Вызваленьне" зьвярнуліся таксама з заклікам да грамадзкасьці выступіць супраць гвалту, які адбываецца адносна ўсіх зьняволеных удзельнікаў акцыі пратэсту

Пра падтрымку камітэту "Вызваленьне" заявілі прадстаўнікі грамадзкіх, палітычных і праваабарончых арганізацыі.

*30.12.2010*



## Парадоксы беларускіх выбараў

***(Меркаваньні нашага чытача)***

Мне не давялося сустрэць ніводнага чалавека, які чакаў бы менавіта такога, як сталася, завяршэньня прэзыдэнцкіх выбараў у Беларусі. Канешне, калі адкінуць усе спадзяваньні і ілюзіі, то бальшыня разумела, што Лукашэнка ўладу не аддасьць і ўтрымаецца на сваёй пасадзе любымі сродкамі. І разам з тым, жорсткае зьбіцьцё і арышты больш за 600 чалавек, уключаючы кандыдатаў у прэзыдэнты і журналістаў, падаецца выходзячым за ўсялякія рамкі перабольшваньнем, тым больш на фоне афіцыйнай інфармацыі пра вялікую перавагу Лукашэнкі над апанентамі ў галасах выбаршчыкаў. Здавалася б, навошта прымяняць такую агрэсію, калі перамога і так была ў кішэні? Больш таго, было абсалютна зразумела, што гэтая агрэсія не палепшыць стасункі Лукашэнкі з усім астатнім сьветам (за выключэньнем вузкага кола “сяброў”). У чым прычына таго, што сталася? Выкажу тут некалькі сваіх меркаваньняў.

Першае, хаця і не галоўнае – помста, банальная помста дыктатара сваім апанентам. Вядома, хацелася б, каб чалавек на пасадзе прэзыдэнта кіраваў краінаю з розумам, а не на падставе першабытных інстынктаў. Але, як паказвае гісторыя, такое здараецца.

Другое. Як згадвалася, згодна афіцыйным лічбам Лукашэнка перамог сваіх апанентаў з неверагодным адрывам. Але, на самай справе выбарчая кампанія паказала, што ягоная ўлада не такая ўжо абсалютная, што ёсьць небясьпека страціць яе, што яму супрацьстаялі сур’ёзныя апаненты. У такой сытуацыі Лукашэнка, магчыма, вырашыў больш не выпрабоўваць лёс і канчаткова замацаваць сваю ўладу, каб больш ужо ў нікога не зьяўлялася жаданьне выступаць ў якасьці прэтэндэнтаў на прэзыдэнцкую пасаду ў будучыні. Ён скарыстаў магчымасьць пазбавіцца ад апазыцыі, прыкрыўшыся жорсткай акцыяй на Плошчы.

Трэйцяе. Зразумела, што нелюбоў да апазыцыі была ў Лукашэнкі заўсёды і ён не хаваў гэтага. Але, чаму менавіта зараз ён вырашыў расправіцца з іншадумцамі, калі апошнім часам пачалося збліжэньне з Эўропаю і ён сам абяцаў эўрапейцам, што выбары будуць дэмакратычнымі? Напэўна, сваю ролю тут сыгралі 4 мільярды даляраў, якія Лукашэнка можа атрымліваць у год на падставе новых дамоўленнасьцяў з Расеяю перад самымі выбарамі. Перыяд любові да Эўропы зьмяніўся вяртаньнем да любові з Расеяю.

Апазыцыю ў Беларусі ён цярпеў толькі таму, што гэтага патрабаваў Захад, але на Ўсходзе абяцаюць заплаціць болей і не патрабуюць ягоных перавыбараў.

Асобнага камэнтара заслугоўваюць некалькі на першы погляд дзіўных фактаў.

Па словах многіх арыштаваных і вызваленых потым удзельнікаў мітынгу, суды над імі праходзілі пры ілжывых сьведчаньнях з боку міліцыянтаў і АМАПаўцаў. Было арыштавана нават шмат людзей, якія не бралі ўдзелу ў мітынгу, але аказаліся недзе побач. Людзям прад’яўлялі ўжо зараней складзеныя абвінавачваньні і пасьпешна зачытвалі выракі. Дзяржапарат проста перамолваў людзей сваімі жорнамі ў імкненьні паказаць большую колькасьць парушальнікаў парадку. Бальшыні з іх давалі па 10-15 сутак ці штрафы. Гэта магло быць патрэбна толькі для таго, каб паказаць маштаб быццам бы ўчыненага лідэрамі апазыцыі бунту ці нават спробы дзяржаўнага перавароту, за што ім, таксама арыштаваным, пагражаюць тэрміны зьняволеньня да 15 гадоў.

Аб правакатарах. Галоўным абвінавачваньнем з боку ўладаў стала тое, што быццам бы апазыцыянеры пачалі граміць будынак Дому ураду. Дзьверы і вокны разьбівалі невядомыя людзі, якіх ніхто з апазіцыі не ведаў. Мітынгоўцы нават самі пачалі адганяць іх ад будынку. Але, міліцыя і АМАП не чапалі гэтых правакатараў. Відавочна, мэтаю ўладаў было атрымаць “доказы” беспарадкаў з боку апазыцыі і пачаць расправу з мітынгоўцамі. АМАПаўцы накінуліся на людзей, пачалі жорстка зьбіваць усіх без разбору і масава арыштоўваць.

Варта ўзгадаць таксама і такую асаблівасьць “крывавай нядзелі”.

Вялізную дэманстрацыю свабодна пусьцілі на плошчу каля Дому ураду, хаця да гэтага па тэлевізіі міліцэйскія чыны папярэджвалі грамадзянаў, што ў краіне быццам бы рыхтуюцца тэракты ў сувязі з выбарамі. Здавалася б, што ў гэтай сытуацыі міліцыя павінна была б прыняць прэвентыўныя меры і не дапускаць такую масу людзей да будынку, дзе размяшчаюцца дзяржаўныя органы і ЦВК. Выглядае, што гэта была прыгатаваная ўладамі пастка.

Шмат аб чым гаворыць і тое, што арыштоўвалі не толькі “зачыншчыкаў”, але і людзей з іх камандаў, нават тых, якія не былі на плошчы. Відавочна імкненьне рэжыму не толькі зьнішчыць лідэраў апазыцыі, але і іх каманды, іх офісы, усё іх працоўнае асяроддзе. Ідзе поўная зачыстка. Бальшыню затрыманых выпусьцяць з турмаў, там застануцца толькі тыя, хто сапраўды ўяўляе найбольшую небясьпеку для рэжыму. І гэта мы цяпер назіраем.

Я ўпэўнены, што падзеі ў Беларусі 19 сьнежня і пасьля не ёсьць выпадковасьцю. Усё ж наўрад ці варта лічыць, што ў Лукашэнкі проста здалі нервы. Выглядае, што гэта была сплянаваная акцыя па разгому апазыцыйнага дэмакратычнага руху ў краіне, які стаў уяўляць небясьпеку для дыктатара і ён з падтрымкаю Масквы вырашыў зьнішчыць усялякія праявы іншадумства і канчальна замацаваць сваю ўладу, пазбавіўшы беларускі народ права на свабоду і годнае жыцьцё ў дэмакратычнай і вольнай эўрапейскай краіне.

*Семён Б.*
*Нью-Ёрк*

# The Wall Streat Journal: Беларускія фантазіі

Дэйвід Крэймэр, выканаўчы дырэктар арганізацыі Freedom House, былы намесьнік дзяржсакратара па пытаньнях дэмакратыі, правоў чалавека і працы выказвае свае меркаваньні адносна падзеяў у Беларусі ў сваім артыкуле, апублікаваным у The Wall Streat Journal.

Прайшло амаль два тыдні пасьля прэзыдэнцкіх выбараў у Беларусі і гэтая краіна практычна зьнікла з увагі заходніх сродкаў масавай інфармацыі. Аднак, сытуацыя ў краіне застаецца складанай, больш за 600 грамадзян Беларусі ўсё яшчэ знаходзяцца ў зьняволеньні пасьля разгону ўладамі дэманстрантаў, якія пратэставалі супраць фальсыфікацыяў на выбарах, а таксама супраць рэжыму Аляксандра Лукашэнкі. Сярод затрыманых знаходзяцца таксама сем апазыцыйных лідэраў, якія спаборнічалі са спадаром Лукашэнкам на прэзыдэнцкіх выбарах. Яны былі зьбітыя, у іх дамах і офісах прайшлі ператрусы, а цяпер ім і яшчэ дзясятку іншых удзельнікаў дэманстрацыі пагражае пакараньне ў выглядзе турэмнага зьняволеньня да 15 гадоў за «арганізацыю масавых беспарадкаў».

Нягледзячы на фантазіі некаторых заходніх лідэраў, выбары, якія адбыліся 19 сьнежня, і падзеі, якія адбыліся пасьля выбараў, паказалі, што апошняя дыктатура Эўропы працягвае заставацца такой жа барбарскай, якой яна заўсёды і была. Аднак дзьве рэчы здарыліся пасьля прэзыдэнцкіх выбараў 2006 году – адна пазытыўная і адна нэгатыўная.

Пазытыўны бок палягае ў тым, што тысячы дэманстрантаў выйшлі на вуліцу, калі выбарчыя ўчасткі ў цэнтры Менску ўжо зачыняліся, яны хацелі выказаць такім чынам свой пратэст супраць дыктатуры Лукашэнкі. Ніколі раней такая вялікая колькасьць беларусаў ня кідала так адкрыта выклік рэжыму. Гэткая актыўнасьць сьведчыць аб наяўнасьці клопату людзей адносна будучыні краіны незалежна ад таго, зь якой жорсткасьцю ўлады душаць удзельнікаў гэтага руху.

Што да нэгатыўнага боку, то многія на Захадзе апошнія пару гадоў займаліся тым, што выяўлялі нерашучасьць у дачыненьні да спадара Лукашэнкі. Гэта зьмякчэньне пазыцыі пачалося ў кастрычніку 2008 году, калі Эўрапейскі Зьвяз прыпыніў забарону на выдачу віз беларускім афіцыйным асобам, якія маюць дачыненьне да парушэньняў правоў чалавека пасьля фальсыфікацыяў на выбарах 2006 году. Эўразьвяз скасаваў гэтую забарону ў 2008 годзе, нягледзячы на сур'ёзныя парушэньні падчас парлямэнцкіх выбараў, якія адбыліся усяго за тры тыдні да гэтага, і сп. Лукашэнка тады вызваліў усіх палітычных зьняволеных. Вызваленьне людзей, якія знаходзіліся за кратамі, стала магчымым у выніку супольнага ціску з боку ЗША і Эўразьвязу і ўвядзеньня імі ў 2006 годзе санкцый, якія ўключалі ў сябе забарону на выдачу віз беларускім чыноўнікам, а таксама замарожваньне іх банкаўскіх рахункаў. У студзені 2008 году, праз два месяцы пасьля таго, як ЗША ў аднабаковым парадку ўзмацнілі жорсткасьць сваіх санкцыяў, Менск пачаў вызваляць палітычных вязьняў. Але ў канцы 2008 году Эўропа стала аслабляць санкцыі, і праз некаторы час сп. Лукашэнка аднавіў перасьлед сваіх апанэнтаў і крытыкаў, а некаторыя зь іх апынуліся за кратамі.

Пачнём з таго, што многія эўрапейскія лідэры не асабліва віталі санкцыі супраць Лукашэнкі, а, пачынаючы з 2008 году, яны сталі шукаць новыя спосабы ўплыву на беларускага лідэра. Калі адносіны СП. Лукашэнкі зь яго расійскімі партнэрамі пагоршыліся (расейскае тэлебачаньне, якое знаходзіцца пад кантролем дзяржавы, арганізавала бескампрамісную кампанію гэтым летам супраць сп. Лукашэнкі), некаторыя эўрапейскія палітыкі ўбачылі ў гэтым магчымасьць залучыць Менск у сваю эўрапейскую арбіту і адарваць яго ад Расеі. Але праблема гэткага падыходу палягае ў тым, што сп. Лукашэнка – майстар сварыць Захад і Расею, і многія эўрапейцы трапілі ў расстаўленую ім пастку.

За тыдні і месяцы перад апошнімі выбарамі шматлікія эўрапейскія лідэры наведалі Менск і фактычна падтрымалі спадара Лукашэнку, паабяцаўшы яму фінансавую дапамогу ў абмен на правядзеньне свабодных і сумленных выбараў. Спадар Лукашэнка, казалі яны, дае надзею – ён цьвёрда паабяцаў беларусам процідзейнічаць уплыву суседняй Расеі, і ён таксама робіць невялікія крокі ў кірунку лібэралізацыі.

Нават ЗША прынялі ў гэтым удзел на саміце ў Казахстане ў лістападзе, калі дзяржсакратар Гілары Клінтан зьмяніла палітыку, якая праводзілася доўгі час, сэнс якой палягаў у тым, каб не праводзіць сустрэчы на высокім узроўні зь беларускімі афіцыйнымі асобамі. У выніку яна падпісала са сваім беларускім калегам пагадненьне па высокаўзбагачаным уране. Толькі ў канцы іх супольнай заявы, якая складалася зь пяці параграфаў, спадарыня Клінтан і міністар замежных справаў Беларусі Сяргей Мартынаў коратка згадалі правы чалавека. Тыя людзі, якія азнаёмяцца з гэтай заявай, так і не даведаюцца аб тым, што спадар Лукашэнка тры гады таму выгнаў з краіны амэрыканскага амбасадара і да гэтага часу не дазволіў даслаць яму замену.

Гвалт, зроблены беларускімі ўладамі ў дачыненьні да ўдзельнікаў акцыі пратэсту ў гэтым месяцы, мусіць пакласьці канец усім фантазіям адносна спадара Лукашэнкі і яго атачэньня. Ён і ня думае займацца лібэралізацыяй краіны, паколькі, калі ён пачне гэта рабіць, ён рызыкуе страціць уладу. Ён не зьбіраецца паляпшаць адносіны з Захадам, ён думае толькі аб тым, каб знайсьці процівагу ціску з боку Масквы.

Сумна тое, што былі неабходныя маштабны гвалт і арышты сотняў дэманстрантаў у Менску ў дзень выбараў для таго, каб пазбавіцца ад рамантычных ілюзіяў многіх эўрапейцаў і некаторых амэрыканцаў адносна спадара Лукашэнкі. Эўразьвяз і Злучаныя Штаты не павінны прызнаваць «перавыбары» спадара Лукашэнкі, якія адбыліся ў гэтым месяцы, а Эўразьвязу варта ізноў увесьці ў поўным аб'ёме санкцыі супраць гэтага рэжыму, калі ўсе зьняволеныя ня будуць неадкладна вызваленыя. Спадар Лукашэнка зьяўляецца жорсткім дыктатарам, і ён ніколі ня будзе паважаць волю народу Беларусі. Дэмакратыі ўсяго сьвету павінны стаць на бок беларускага народу, а не на бок апошняга дыктатара Эўропы.

*Тэкст Радыё Свабода*
*30.12.2010*

# The Independent: Хто будзе змагацца з апошнім дыктатарам Эўропы?

Артыкул пад такой назвай зьмешчаны ў брытанскай "The Independent". Яго аўтар Джон Кампфнэр, кіраўнік праваабарончай арганізацыі "Індэкс цэнзуры", аналізуе палітыку сваёй краіны і ЭЗ у дачыненьні да Беларусі .

Як адзначае Джон Кампфнэр, на наступную раніцу пасьля таго, як у апошняй дыктатуры Эўропы былі сфальсыфікаваныя выбары, а бандыты з КДБ зьбілі і арыштавалі кандыдатаў на прэзыдэнта, на сайце МЗС Вялікабрытаніі былі разьмешчаныя паведамленьні ў сувязі са сьмерцю карэспандэнта BBC Брайна Ханрахана і пагаршэньнем надвор'я

Без сумневу, піша выданьне, Ханрахан быў выдатным журналістам і выдатным чалавекам, а сьнег можа выклікаць хаос у няшчасных брытанскіх аэрапортах. Але той факт, што гэтым дзьвюм тэмам было нададзена больш увагі, чым бандытызму ў краіне-суседцы ЭЗ, сьведчыць пра сапраўдныя прыярытэты брытанскай зьнешняй палітыкі.

ЭЗ цягам апошняга часу спрабаваў уціхамірыць Лукашэнку прапановай аб гандлёвых зьдзелках у абмен на лібэралізацыю палітыкі. Гэта магло спрацаваць, але не спрацавала.

Праз 48 гадзін кіраўнік МЗС Вялікабрытаніі Уільям Хэйг нарэшце здолеў выказаць сваю “надзвычай сур'ёзную заклапочанасьць”. МЗС, аднак, нічога не сказаў пра сфальсыфікаваныя выбары, нягледзячы нават на тое, што назіральнікі АБСЭ заявілі, што сытуацыя з празрыстасьцю вынікаў на палове выбарчых участкаў у Беларусі была “кепскай” або “вельмі кепскай”.

Паводле "The Independent", яшчэ ніколі аўтарытарным рэжымам не жылося так добра. Ідэя прасоўваньня дэмакратыі ўжо сканала. Хаця і нельга казаць, што яна насамрэч працавала ў якасьці суцэльнай філязофіі.

Аўтар артыкулу называе наступныя прычыны. У тым, што Захад страціў свой колішні ўплыў і давер у сьвеце, ёсьць, як ён лічыць, пэўная “заслуга” Тоні Блэра і Джорджа Буша. Да ўсяго іншага апошнім часам зьявіліся дакумэнты пра тое, што Вашынгтон і Лёндан заахвочвалі ў Іраку праявы цярпімасьці да катаваньняў, сакрэтныя палёты і іншыя парушэньні міжнароднага заканадаўства.

Па-другое, на непапулярнасьць ідэі прасоўваньня дэмакратыі паўплывалі эканамічны ўздым Кітаю і нечаканае аднаўленьне ў Расеі. Адкрытае заахвочваньне Кітаем выгадных зьдзелак для краін, якія зачынялі вочы на парушэньні правоў чалавека, спарадзіла пэўныя правілы гульні. Цяпер, калі ўсясьветныя лідэры прыяжджаюць у Пэкін, яны дыстанцуюцца ад скаргаў у сувязі з турэмнымі пакараньнямі дысыдэнтаў. Што да Крамля, то ён усё больш дэманструе моц расейскай палітычнай і бізнэс-эліты ды службаў бясьпекі. Новы прысуд на гэтым тыдні Міхаілу Хадаркоўскаму – алігарху, які ня стаў гуляць паводле правілаў зьявіўся яскравым напамінам пра гегемонію варыянту дзяржаўнай улады XXI стагодзьдзя.

Як піша "The Independent", пасьля міністра Робіна Кука правы чалавека ўжо не зьяўляюцца стрыжнем брытанскай зьнешняй палітыцы. У новым стагодзьдзі гэты акцэнт напачатку быў размыты, а потым увогуле забыты.

Але ж Беларусь – гэта не якая-небудзь далёкая малавядомая краіна, якая нікога не хваліюе, падкрэсьлівае выданьне. Заціснутая паміж Польшчай і Расеяй, краіна панесла сур'ёзныя страты ў гады Другой усясьветнай вайны. Яна прыняла на сябе ўзьдзеяньне радыеактыўнага атручваньня пасьля Чарнобыльскай аварыі ў суседняй Украіне. Адрозна ад Украіны і іншых былых савецкіх краін, беларускі флірт з дэмакратыяй быў павярхоўным. Адрозна ад Расеі, яе службы бясьпекі не адчувалі неабходнасьці пазбавіцца ад абрэвіятуры КДБ.

Як адзначае аўтар артыкулу, кожны дзень зь Менску паступаюць паведамленьні аб гвалце і запалохваньні . “І які адказ? Урады застаюцца безудзельнымі. Немцы, прынамсі, запрасілі на размову беларускага амбасадара ў Бэрліне. Яны, а таксама палякі, чэхі і швэды болей за астатніх робяць гучныя заявы. ЭЗ цягам апошняга часу спрабаваў уціхамірыць Лукашэнку прапановай аб гандлёвых зьдзелках у абмен на лібэралізацыю палітыкі. Гэта магло спрацаваць, але не спрацавала. Замест гэтага Пуцін, які крытычна выказваўся аб беларускім дыктатары, цяпер падтрымлівае яго, пасылаючы яму танную нафту ў абмен на вернасьць Маскве”, піша Джон Кампфнэр.

*Паводле Радыё Свабода*
*31.12.2010*

# Пасьлявыбарныя зьмены ва ўрадзе Беларусі: прэм'ер-міністрам прызначаны Міхаіл Мясьніковіч



Міхаіл Мясьніковіч(злева) і Сяргей Сідорскі.

Аляксандар Лукашэнка напрыканцы сьнежня прызначыў Міхаіла Мясьніковіча прэм'ер-міністрам Беларусі замест Сяргея Сідорскага, які пасьля так званых прэзыдэнцкіх выбараў склаў свае паўнамоцтвы ў адпаведнасьці з Канстытуцыяй РБ.

Міхаіл Мясьніковіч нарадзіўся ў 1950 годзе ў вёсцы Новы Сноў Нясьвіжскага раёну Менскай вобласьці. У 1972 годзе скончыў Берасьцейскі інжынэрна-будаўнічы інстытут, у 1989 годзе — Менскую вышэйшую партыйную школу. Доктар эканамічных навук, прафэсар, член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. За савецкім часам зрабіў пасьпяховую кар'еру на партыйных і гаспадарчых пасадах. Пры Лукашэнку ў 1995–2001 гадах быў кіраўніком адміністрацыі прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь, памочнікам прэзыдэнта па асаблівых даручэньнях.

З кастрычніка 2001 году быў старшынём Прэзыдыюму Нацыянальнай акадэміі навук

Разам зь Сідорскім страцілі свае пасады такія адыёзныя асобы ў акружэньні Лукашэнкі як Натальля Пяткевіч, Аляксандар Зімоўскі, Зянон Ломаць. Актор Генадзь Давыдзька прызначаны старшынём Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі.

# Рада БНР прапанавала "жалезную заслону" для КДБ і АМАПу



Рада БНР зьвярнулася да ўраду шэрагу краінаў з прапановай увесьці забарону на ўезд для супрацоўнікаў сілавых і праваахоўных структураў Беларусі і членаў іх сем'яў.

Рада Беларускай Народнай Рэспублікі прыняла заяву, у якой выказала "занепакоенасьць надзвычай брутальнымі нават для рэжыму Лукашэнкі рэпрэсіўнымі дзеяньнямі ў дачыненьні да актывістаў апазыцыі, палітычных і праваабарончых арганізацыяў, журналістаў незалежных сродкаў масавай інфармацыі, якія разгарнуліся ў Беларусі пасьля так званых прэзыдэнцкіх "выбараў" 19 сьнежня і набываюць усё большы маштаб. Рэпрэсіі закранаюць ня толькі актывістаў, але і членаў іх сем'яў".

Рада БНР зьвяртаецца да ўрадаў краінаў Эўразьвязу, ЗША, Канады, Украіны, Турэччыны і Ягіпту з заклікам "забараніць уезд на тэрыторыю гэтых краінаў супрацоўнікам КДБ і іншых спэцслужбаў, сыстэмы міністэрства ўнутраных справаў, судоў і пракуратуры Рэспублікі Беларусь, а таксама членам іх сем'яў.

Рада БНР разглядае вышэйназваныя структуры як рэпрэсіўны мэханізм, які скарыстоўваецца супраць актывістаў дэмакратычнай апазыцыі".

Рада БНР прапануе, каб гэтая "забарона на ўезд дзейнічала да моманту вызваленьня апошняга ў Беларусі палітычнага вязьня і скасаваньня усіх крымінальных і адміністрацыйных справаў у дачыненьні да асоб, якіх пераследуюць за іх палітычную пазыцыю".

*Паводле Радыё Свабода*
*28.12.2010*

# Латыніна: Трыюмф расейскіх спэцслужбаў у Беларусі



Такую ацэнку дае ў артыкуле ў "Ежедневном журнале" расейскі аналітык Юлія Латыніна. Паводле яе посьпехам палітыкі Масквы сталі, ў прыватнасьці, прэзыдэнцкія выбары ва Ўкраіне, пераварот у Кіргізстане і вынікі прэзыдэнцкіх выбараў у Беларусі.

У артыкуле наконт Беларусі гаворыцца: "Увосень 2010 году Пуцін канчаткова пасварыўся з беларускім дыктатарам Лукашэнкам. Мэханізм сваркі быў той жа, што і ў выпадку з Бакіевым: Лукашэнка ўзяў з Расеі грошы за прызнаньне Абхазіі і Паўднёвай Асэтыі, а прызнаць – не прызнаў.

Расейскае тэлебачаньне прынялося здымаць выкрывальныя стужкі пра Лукашэнку, а расейскія спэцслужбы – падтрымліваць апазыцыю на выбарах 19 сьнежня… Я зусім не асуджаю беларускую апазыцыю. Супраць царскай улады – хоць у плямбаваным вагоне…

Пазыцыя Крамля на гэты раз была бяспройгрышнай. Атрымаецца выйграць - будзе, як у Кіргізстане. Не атрымаецца – значыць, Бацька зьвернецца да рэпрэсій і стане канчаткова ня вартым пацісканьня рукі ў вачах Захаду. Дрэйф Бацькі ў бок Захаду (згоду Захаду сябраваць з Лукашэнкам у Крамлі, думаецца, моцна перабольшвалі) будзе спынены.

Рэалізаваны быў, як вядома, другі варыянт. Па падліках Андрэя Іларыёнава, рэальная колькасьць галасоў, пададзеных за Лукашэнку, не перавышала 40-44%, а Някляеў і Саньнікаў набралі ня менш за 16% кожны. Гэтыя вынікі, верагодна, прывялі Бацьку ў шаленства. Напружвацца, даказваючы сувязь апазыцыі і Крамля, яму наўрад ці хацелася.

Лукашэнка проста і груба арганізаваў правакацыю (штурм Дома ўрада) і арыштаваў ўсіх кандыдатаў, акрамя Раманчука, за спробу дзяржаўнага перавароту.

Зьвяртае на сябе ўвагу, што кіргіскі варыянт у Беларусі не атрымаўся. Скідаць «на халяву» можна толькі тую ўладу, якая і так на нагах не ставіць. А вось выставіць крывавым дыктатарам можна толькі таго, хто і на самай справе зьяўляецца крывавым дыктатарам".

*Паводле Радыё Свабода*
*4.01.2011*

# ПЦ "Вясна" пратэстуе супраць кампаніі тэрору ў адносінах да іншадумцаў і палітычных апанентаў

Праваабарончы цэнтр "Вясна" 2 студзеня 2011 прыняў адмысловую Заяву адносна апошніх падзеяў у Беларусі . У Заяве гаворыцца:

"Праваабарончы цэнтр "Вясна" выказвае рашучы пратэст з нагоды развязвання ўладамі Беларусі масавых палітычных рэпрэсій у краіне і заяўляе:

-Выбары Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь не з'яўляліся свабоднымі і дэмакратычнымі. Вынікі выбараў, абвешчаныя ЦВК, ніякім чынам не адлюстроўваюць рэальнага волевыяўлення грамадзян Беларусі…"

*2.01.2011*

# The Washington Post: За жэстамі павінны ісьці дзеяньні супраць Лукашэнкі

Газэта The Washington Post ў рэдакцыйным артыкуле згадвае навагодняе чытаньне імёнаў больш чым 700 беларускіх зьняволеных у эфіры Радыё Свабода ды заклікае заходніх палітыкаў прыняць санкцыі супраць рэжыму Аляксандра Лукашэнкі.

"У навагоднія выходныя група сусьветных лідэраў прыняла ўдзел у выдатнай акцыі пратэсту супраць разгону палітычнай дэманстрацыі ў Беларусі – краіне, якую часам называюць апошняй дыктатурай Эўропы. Былыя прэзыдэнты Джордж Буш-малодшы і Вацлаў Гавэл, ды старэйшыя сябры Камітэту па замежных адносінах у Палаце прадстаўнікоў узялі ўдзел у адмысловай перадачы Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода. Кожны з удзельнікаў прачытаў пэўную колькасьць прозьвішчаў з агульнага ліку 700 чалавек, затрыманых рэжымам Аляксандра Лукашэнкі пасьля сумнеўных выбараў 19 сьнежня" – піша вядучая амэрыканская газэта.

Нагадаўшы пра арышты апанэнтаў Лукашэнкі пасьля дэманстрацыі 19 сьнежня, The Washington Post піша:

"Удар спадара Лукашэнкі імгненна адвярнуў тое, у чым некаторыя ўбачылі паўзучы рух у бок палітычнай лібэралізацыі і большай незалежнасьці ад Расеі, якая спрабуе зьвязаць Беларусь удзелам у новым, аўтарытарным саюзе. Удар моцна зьбянтэжыў дыпляматаў Эўразьвязу, якія прапанавалі спадару Лукашэнку 3,6 мільярда даляраў дапамогі ў абмен на сумленныя выбары. Ён таксама ўзьняў пытаньне, ці ядзерная зьдзелка, заключаная рэжымам з адміністрацыяй Абамы за два тыдні да выбараў, – у якой Беларусь падтрымала адну з запаветных мэтаў прэзыдэнта Абамы, пагадзіўшыся адмовіцца ад запасаў высокаўзбагачанага ўрану, – не была задуманая як купля талерантнага стаўленьня Вашынгтону да ўмацаваньня пазыцыі спадара Лукашэнкі".

*Паводле радыё Свабода*
*04.01.2011*

# Ці можа Хрысьціянская Царква віншаваць Ірада з чарговай крывавай перамогай над сваім народам?”



*Каляднае архіпастырскае пасланьне кіраўніка Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, япіскапа Наваградзкага і Паўночна-Амэрыканскага Сьвятаслава Логіна.*

Дарагія браты й сёстры ў Хрысьце!

Ужо болей за дзьве тысячы гадоў, як з волі Госпада, Сын Божы прыняў чалавечае цела і нарадзіўся ад Прачыстае Дзевы. Гэты прыход Мэсіі, прадказаны пракрокамі, людзі чакалі стагодзьдзі. Але адразу пасьля нараджэньня, Ісус сустрэўся зь нянавісьцяй і небясьпекай. Цар Ірад, каб пагубіць нованароджанага нябеснага Ўладара, загадаў забіць тысячы малых дзетак у Бэтлееме з-за боязі страціць уладу над Палестынаю, якою кіраваў. Гэтая крывавая падзея ўспамінаецца ў Сьвятым Дабравесьці дзеля таго, каб мы разумелі бязьлітаснасьць граху, дзеля перамогі над якім і прыйшоў на зямлю Сын Божы.

У часы ганеньняў нашае веры хрысьціянаў катавалі прылюдна, каб іншыя баяліся прымаць праўдзівую веру, якая робіць чалавека вольным ад улады граху над ім.

Але Хрысьціянства вытрымала цяжкія пакуты, бо яно прынесла ў сьвет нябачную раней любоў паміж людзьмі, якая ёсьць падмуркам цяперашніх законаў маральных і дзяржаўных. Але жорсткасьць нашага сьвету й дагэтуль не спынілася. І ў наш час існуюць “ірады”, якія кіруючы дзяржавамі, не карыстаюцца Божымі запаветамі.

Вернікі, якія прынялі ў сваё сэрца Хрыстовае вучэньне, павінны разумець, што ёсьць ад Бога, а што – ад нячыстага. Ці можа Хрысьціянская Ўлада ваяваць з уласным народам, што тое самае, што ваяваць з Богам? І ці можа Хрысьціянская Царква віншаваць Ірада з чарговай крывавай перамогай над сваім народам?

Самая падзея выкупленьня Збаўцам чалавецтва адбылася празь некалькі дзесяцігодзьдзяў пасьля Ягонага нараджэньня. Таму гэтае сьвята – сьвята надзеі, зьдзяйсьненьне якой яшчэ адбудзецца ў будучыні, чаму й нават у часы найбольшага ліхалецьця ў Беларусі, народ радасна сустракаў Каляды з надзеяй на лепшую долю.

Дык разам паднясем малітву да Ўсявышняга за нашых блізкіх, за вернікаў розных Хрысьціянскіх Цэркваў, за Змагароў, што йдуць пад сьцягам Хрыста і за тых, хто яшчэ супраць Яго, за зьняволеных і пакутуючых, за Маці-Беларусь і ўсіх беларусаў-ліцьвіноў, што жывуць на Бацькаўшчыне і ў замежжы, каб Калядная зорка ўказвала нам шлях да нацыянальнае згоды і да Ўладарства Божага.

І каб калядьнікі прыходзілі да кожнага беларускага памешканьня, віншуючы ўсіх.

**Хрыстос нарадзіўся! Слаўце Яго!**

# Калядны зварот а. Аляксандра Надсана да беларусаў



***Апостальскі візытатар для беларусаў замежжа айцец Аляксандар Надсан у сваім Калядным звароце да вернікаў разважае над сутнасьцю ўладаў і іх адказнасьцю перад грамадзтвам.***

“Я ПРЫЙШОЎ, КАБ ПАСЛУЖЫЦЬ”

“Нязьменны вобраз Айца, водбліск Ягонай спрадвечнасьці, прымае выгляд слугі. Прыйшоўшы ад Дзевы Маці і не зазнаўшы зьмены, Ён застаецца тым, кім быў – спрадвечным Богам, - і прымае тое, чым ня быў, стаўшыся чалавекам дзеля любові да людзей”. Гэты гімн, які Царква пяе у Дзень Нараджэньня Хрыстовага добра перадае сэнс гэтага сьвята, менавіта што спрадвечны Бог у сваёй любові да нас, стаецца адным з нас. Ён прыходзіць да нас ня ў сіле, але як маленькае дзіцятка, чакаючы ад нас дапамогі і спагады. Аднак гэта было не звычайнае дзіцятка. Прарок Ісая больш як 700 гадоў да ягонага прыйсьця казаў: “Дзіця нарадзілася нам, сын быў дадзены нам, на ягоных плячох спачыла ўлада” (Іс 9:6).

Дык можа і ня дзіва, што Ягонае прыйсьце ўстрывожыла тых, хто меў уладу. Дзіўная рэч – улада. Як неад’емная частка кожнага грамадзкага ладу, яна ёсьць формаю служэньня бліжняму. Сам Хрыстос сказаў, што Ён прыйшоў “не каб Яму служылі, але каб паслужыць і аддаць жыцьцё за адкупленьне многіх”(Мц 20:28). Тым ня менш нярэдка тыя, хто мае ўладу, паддаюцца спакусе ператварыць яе ў самамэту, як сродак самаўзьвелічэньня коштам іншых. Яна дзейнічае, як наркотык, безь якога яны ня могуць жыць, і яны гатовыя на ўсякае злачынства, каб толькі ўтрымаць яе ў сваіх руках. І тады ўлада ператвараецца ў дыктатуру. Прыкладаў гэтага маем шмат у гісторыі, пачынаючы ад Ірада аж да нашых дзён.

У сувязі з трагічнымі падзеямі апошніх дзён у Беларусі шмат хто зь беларусаў сустракае сьвята Нараджэньня Хрыстовага з трывогаю ў сэрцы. Што чакае нас у будучыні? Няхай жа нованароджаны Хрыстос дасьць супакой усім нам. Хай дасьць зразуменьне кіраўнікам дзяржавы, што ўсякая ўлада ад Бога, і таму накладае на іх абавязак паступаць згодна з Божымі законамі, інакш яны трацяць права кіраваць іншымі. А для ўсіх нас хай будуць суцяшэньнем словы Збаўцы:

“Прыйдзеце да мяне ўсе спрацаваныя і абцяжараныя, і я супакою вас; вазьмеце ярмо Маё на сябе і навучыцеся ад мяне, бо Я лагодны і пакорны сэрцам – і знойдзеце супакой для душаў вашых” (Мц 11: 28-29).

*а. Аляксандар Надсан*
*Каляды 2010 г*

# Патрыярх Кірыл павіншаваў Лукашэнку з «пераабраннем»

Патрыярх маскоўскі і ўсяе Русі Кірыл павіншаваў нязменнага прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі з чарговым пераабраннем, паведамляе РІА «Навіны». Дзеяч царквы зрабіў гэта, не чакаючы, пакуль Лукашэнка павіншуе прэзідэнт Расіі Дзмітрый Мядзведзеў.

# Вольга Іпатава: віншаваньне Лукашэнкі ад патрыярха Кірыла выклікала пачуцьцё сораму

Былая старшыня Саюзу беларускіх пісьменьнікаў Вольга Іпатава зьвярнулася з адкрытым лістом да патрыярха Маскоўскага і ўсёй Русі Кірыла.

“Ваша віншаваньне Аляксандру Лукашэнка з чарговым “элегантным” пераабраньнем на пасаду прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь выклікала ў многіх беларусаў (думаю што і ў іншых рэгіёнах сьвету, дзе добра ведаюць сапраўдны кошт гэтай “перамогі”) пачуцьцё сораму і і глыбокага расчараваньня…

Ваша палітычна матываванае віншаваньне таксама прымушае ўспомніць часы, калі расейская праваслаўная царква, услед за Суворавым і Мураўёвым-вешальнікам, заўзята выкараняць нацыянальную самасьвядомасць беларусаў і беларускую царкву, кіруючыся не брацкім разуменьнем, а тымі ж палітычнымі разлікамі”.

# Лукашэнка сустрэўся з архіепіскапам Кандрусевічам

З нагоды Калядных сьвятаў Аляксандр Лукашэнка сустрэўся з Мітрапалітам Менска-Магілёўскай архіепархіі Рымска-каталіцкай царквы ў Беларусі архіепіскапам Тадэвушам Кандрусевічам.

“Віншую каталіцкіх сьвятароў і ўвесь беларускі народ з гэтым самым добрым, чыстым і сьветлым Сьвятам. Жадаю здароў’я, шчасьця ўсім нашым людзям, - сказаў Лукашэнка, - Мне здаецца, што ў гэтым годзе мы сьвяткуем Нараджэньне Хрыстова неяк асабліва. Я адчуваю зусім іншы настрой і Вы расказалі мне аб прайшоўшых ў Вілейцы ўрачыстасьцях ў сувязі з Калядамі. Я глядзеў па тэлебачаньні, інфармацыю атрымаў”.

Лукашэнка падкрэсьліў, што “… гэта добрае мерапрыемства, на якое зьбіраюцца людзі, не толькі каталікі, але і праваслаўныя, і людзі, свабодныя ад веры… Таму я хачу падзякаваць Вам за тое, што Вы зрабілі ў гэтыя сьвяточныя дні”.

“Сьвятое Раство – гэта сапраўды добрае мерапрыемства, - пагадзіўся Мітрапаліт, - мы наводзім міжнародныя масты між рознымі канфесіямі, рэлігіямі”. Тадэуш Кандрусевіч падкрэсьліў важнасьць таго, што беларускае тэлебачаньне вяло наўпроставую трансляцыю Каляднай багаслужбы.

Аляксандр Лукашэнка перадаў у дар Архікатэдральнаму касцёлу імя Прасьвятой Дзевы Марыі ікону Божай Маці Вострабрамскай, выкананую беларускім майстрам з бурштыну.

*Інфармацыя БЕЛТА*
*27.12.2010*

## З а я в а

***Прынятая сябрамі Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, якія сачылі за прэзыдэнцкімі выбарамі ў Беларусі 19 сьнежня 2010***

Мы, сябры Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, як грамадзяне ЗША, гэтак і новыя эміграНТЫ з Беларусі, выказваем нашу заклапочанасьць чарговымі выбарамі ў Беларусі, якія не былі ні вольнымі ні справядлівымі.

Мы рашуча асуджаем жорсткія дзеяньні беларускіх уладаў ў дачыненьні да ўдзельнікаў мірнай дэманстрацыі пратэсту на Плошчы Незалежнасьці ў Менску 19 сьнежня. Мы падтрымліваем патрабаваньні дэманстрантаў і пратэстуем супраць зьбіцьця і затрыманьня дэмакратычных кандыдатаў у прэзыдэнты – Някляева, Саннікава, Рымашэўскага, Статкевіча, Костусева.

Паколькі вольныя і справядлівыя выбары немагчымыя без сталага доступу да сродкаў масавай інфармацыі, мы заклікаем улады ЗША аказаць дастатковую падтрымку сродкам масавай інфармацыі з-за мяжы, накіраваных у Беларусь.

Усталяваньне дэмакратыі ў Беларусі, павагі да правоў чалавека і да законаў патрабуе спрыяньня з боку амэрыканскіх праваабарончых установаў, дзеля гэтага мы заклікаем да аднаўленьня эфектыўнай і беспярэшкоднай дзейнасьці Амэрыканскай амбасады ў Менску.

Мы заклікаем улады ЗША зьвяртаць большую ўвагу на Беларусь, збалансоўваць эканамічную дапамогу беларускаму народу з санкцыямі супроць асобаў, адказных за існаваньне дыктатарскага рэжыму ў Беларусі.

*Ад імя Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня*
*Старшыня Галоўнай управы*
*Вячка Станкевіч*

***У дзень прэзыдэнцкіх выбараў у Беларусі сябры Згуртаваньня беларусаў Канады правялі пікет перад беларускай амбасадаю, а 21 сьнежня ЗБК прыняло наступную Заяву.***

***Заява Згуртаваньня беларусаў Канады з нагоды становішча ў Беларусі.***

*Консулу Рэспублікі*
*Беларусь у Канадзе Ігару Заламаю*
*Копія: Лукашэнку А. Р.*

Мы, сябры Згуртаваньня беларусаў Канады, абураныя і шакаваныя хваляй гвалту, якая распачалася ў Беларусі ўвечары 19 сьнежня 2010 году, падчас масавага мітынгу на Плошчы Незалежнасьці. Увесь сьвет абышлі кадры відэазапісаў жорсткага зьбіцьця мірных дэманстрантаў, у тым ліку падлеткаў, жанчын і пажылых людзей. У выніку гэтай гвалтоўнай "зачысткі" мноства людзей атрымалі траўмы, сотні чалавек былі кінутыя за краты.
Выбары прэзыдэнта, што адбываліся ў Беларусі 19 сьнежня, на вялікі жаль, ня сталі пачаткам новага этапу ў гісторыі краіны. Кволыя прыкметы перадвыбарчай лібералізацыі, на якія ўскладалі столькі надзеяў і жыхары Беларусі, і міжнародныя дэмакратычныя арганізацыі, аказаліся чарговым падманам. Развязаўшы вайну з уласным народам, дыктатарскі рэжым Аляксандра Лукашэнкі пераступіў усе маральныя нормы. Абвясьціўшы сябе "пераможцам" і растаптаўшы права людзей на свабоднае волевыяўленьне, дыктатар ў чарговы раз прадэманстраваў, што ня лічыць агульнапрынятыя прынцыпы дэмакратыі нормамі ўласных паводзінаў.
Мы патрабуем неадкладна вызваліць арыштаваных кандыдатаў у прэзыдэнты Алеся Міхалевіча, Уладзімера Някляева, Віталя Рымашэўскага, Андрэя Саньнікава і Мікалая Статкевіча, а разам зь імі ўсіх затрыманых пры брутальным разгоне мітынгаў пратэсту 19 і 20 сьнежня 2010 г. Далучаемся да патрабаваньня правесьці паўторныя прэзыдэнцкія выбары без удзелу Аляксандра Лукашэнкі. Заклікаем міжнародную супольнасьць і ўрады ўсіх краінаў выказаць свой пратэст супраць дзеяньняў злачыннага дыктатарскага рэжыму ў Беларусі і не прызнаваць вынікі цынічна сфальшаваных выбараў 19 сьнежня.

*Галоўная управа Згуртаваньня беларусаў Канады*
*Таронта*

# Акцыя пратэсту ў Нью-Ёрку




Напярэдадні Калядаў блізка 50 беларусаў, якія жывуць у Нью-Ёрку, сабраліся пад будынкам, дзе месьціцца Генеральнае Консульства Рэспублікі Беларусь, каб выказаць свой пратэст супраць рэпрэсіяў на Радзіме. Сярод пратэстуючых былі такія вядомыя дзеячы дыяспары, як Вітаўт Кіпель, Вячка Станкевіч, Зянон Пазьняк, Віталь Зайка ды інш. Прысутныя на мітынгу раздавалі мінакам улёткі зь інфармацыя пра падзеі, што адбываюцца ў Беларусі. Шмат хто з іх выказваў словы падтрымкі і салідарнасьці, а некаторыя нават далучыліся да пратэсту.

Акцыя пратэсту была арганізаваная Нью-Ёркскім аддзелам БАЗА і ўзгодненая з паліцыяй Нью-Ёрку. Паліцыянты падрыхтавалі сьпецыяльна вызначанае месца для пратэстоўцаў, а пад час мерапрыемства за парадкам сачылі два дэтэктывы зь мясцовага аддзяленьня паліцыі. Судзячы па тым, што яны казалі ўдзельнікам, сталася зразумелым, што Генэральнае Консульства зьвярталася да паліцыі Нью-Ёрку з просьбаю абараніць іх сядзібу ад грамадзянаў уласнай краіны.
Непасрэдна па выніках акцыі ў Нью-Ёрку некалькі дзён пазьней быў зарэгістраваны непрыбытковы Інстытут Беларускай Дэмакратыі, сярод статутных мэтаў якога падтрымка палітзьняволеных, іх сем'яў і дапамога дэмакратычнай супольнасьці Беларусі ў змаганьні за зьмены да лепшага ў краіне.

*Юрась Зянковіч*



# Салідарнасьць з палітычнымі вязьнямі ў Лёндане

19 сьнежня, у дзень прэзыдэнцкіх выбараў, у Лёндане прайшла акцыя салідарнасьці зь Беларусьсю. Да амбасады Беларусі, дзе ў той дзень працаваў выбарчы ўчастак, выйшла каля дзясятка чалавек пад бел-чырвона-белымі сьцягамі. Навечар адбылася прэзэнтацыя фільма Staging a Revolution, прысьвечанага беларускаму «Свабоднаму тэатру» і паказанага па BBC. Прэзэнтацыю ладзіла праваабарончая арганізацыя Index on Censorship.
22 сьнежня перад амбасадай Беларусі прайшоў пікет салідарнасьці з палітвязьнямі. Акцыя была арганізаваная Index on Censorship і сабрала каля 50 чалавек. На пікеце выступілі вядомы драматург Том Стопард і актор Іан Маккелен. Былі зачытаныя звароты некалькіх знакамітых тэатральных дзеячоў у падтрымку беларускіх палітвязьняў. Брытанскія рэжысэры, акторы й сцэнарысты перадусім патрабавалі ад беларускіх уладаў вызваленьня арыштаваных актораў Свабоднага тэатру.
Эмацыйна выступіла сястра кандыдата ў прэзыдэнты Андрэя Саньнікава, якая заклікала ўсіх прысутных пашыраць у вольным сьвеце праўду пра падзеі ў Беларусі. Прадстаўнікі беларускай дыяспары ў Вялікай Брытаніі распаўсюджвалі ўлёткі з заклікам дамагацца правядзеньня новых прэзыдэнцкіх выбараў без удзелу Аляксандра Лукашэнкі.
Удзельнікі акцыяў заклікалі жыхароў Вялікай Брытаніі зьвяртацца да парлямэнтароў свайго раёна (МР) і папрасіць падняць пытаньне абароны правоў чалавека і дэмакратыі ў Беларусі.

*Паводле "Беларуса на чужыне" № 10(52) 2010*

# Прага: акцыя пратэсту ля беларускай амбасады

Каля 20 чалавек правялі ў чацьвер 24 сьнежня перад беларускаю амбасадаю ў Празе пікет пратэсту з патрабаваньнямі вызваліць палітычных вязьняў, арыштаваных падчас разгону пасьлявыбарчых акцыяў у Менску.
Удзельнікі пратэсту хацелі скласьці перад амбасадаю надпіс са сьвечак "Свабоду!". Гэтаму перашкодзіў супрацоўнік амбасады, у выніку пратэст перамясьціўся на процілеглы ходнік. Пікетоўцы трымалі ў руках нацыянальныя сьцягі і скандавалі заклік "Свабоду палітычным вязьням!".



*Паводле Радыё Свабода 24.12.2010*

# Закратаваная культура

Прамінулы 2010 год у культурніцкім пляне запомніцца, сярод іншага, выдавецкаю ініцыятываю "Лімарыюсу"- заснаваньнем сэрыі "Галасы Айчыны". Пасьпелі выйсьці і атрымалі шырокі розгалас двутамовік Ларысы Геніюш, аднатомныя зборы Алеся Салаўя і Ўладзімера Дудзіцкага. Усе яны, дарэчы, згадваюцца ў перадкалядным апытаньні Радыё "Свабода" пра найлепшыя кніжныя выданьні, а збор твораў Паэткі прызнаны Кнігаю Беларусі-2010.

Трэба адзначыць, што хоць творы Л. Геніюш неаднойчы выходзілі раней (у Менску й Лёндане), а Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва ў сваёй сэрыі выдаў паэтычныя зборнікі эміграцыйных паэтаў, кнігі ад "Лімарыюсу" менш за ўсё можна назваць перадрукамі. Па-сутнасьці, на сёньня гэта найбольш поўныя, выверанyя, з далучанымі бібліяграфіямі, камэнтарамі зборы твораў пісьменьнікаў, спадчыну якіх акадэмічныя ўстановы ў Беларусі, кшталту Інстытута Літаратуры, ня хутка паставяць у свае пляны.

Зьяўленьне падобнай сэрыі файнае яшчэ тым, што яна відавочна можа скласьці добрую канкурэнцыю ведамаму "Беларускаму Кнігазбору", які, трэба прызнаць, рэдка, асабліва апошнім часам, радуе арыгінальнымі выданьнямі й шчыра засмучае павархоўным камэнтаваньнем. Яно зразумела: перадрук ранейшага, укладаньне з ужо надрукаванага прасьцей і патрабуе менш працы як сапраўднае вяртаньне з небыцьця, з архіўнага пылу й газэтнага друзу.

Ня проста ў творчых плянах, а на варштаце, у працы чарговыя зборы: Уладзімера Дубоўкі (нават ня верыцца, што мы так і ня маем прыстойнага выданьня гэтага выбітнага паэты), Язэпа Пушчы, Янкі Юхнаўца – і гэта далёка ня поўны сьпіс!

Паралельна з кніжнаю сэрыяй, "Лімарыюс" працягвае выданьне раcпачатага пазалетась біяграфічнага альманаху "Асоба й час". У 2010 выйшла два выпускі, адзін зь іх цалкам прысьвечаны Л. Геніюш. Падобнага ў нас ніколі ня было.

За гэтымі выданьнямі стаіць асоба аднаго чалавека – Аляксандра Фядуты, ініцыятара, рухавіка ня толькі гэтых праектаў, але й іншых, у тым ліку новых, якія таксама ня маюць аналягаў у кніжнай і ўвогуле культурніцкай гісторыі Беларусі.

На час, калі пішуцца гэтыя радкі, А. Фядута сядзіць за кратамі за ўдзел у Плошчы. За ягонае вызваленьне выказаліся літоўскія і расейскія калегіфілёлагі, ён разам з Уладзімерам Някляевым прыняты ў Літоўскі ПЭН.

А час, якім адмяраецца ягонае сядзеньне ў вязьніцы, - гэта страчаны час для культуры Беларусі.

*Лявон. Юрэвіч*
*Натальля Гардзіенка*

# Акцыя пратэсту ў Вашынгтоне

14 студзеня беларусы ў Вашынгтоне прыйшлі да будынку амбасады Беларусі, каб прадэманстраваць салідарнасць з дэмакратычным рухам і патрабаваць вызваленьня палітычных вязняў. Яны спрабавалі перадаць прадстаўніку амбасады сымбалічны хлеб палітычным вязьням у Беларусі з пісьмовымі патрабаваньнямі аб іх вызваленьні. Супрацоўнік амбасады прыняў толькі пісьмовы зварот, але адмовіўся прыняць хлеб, спаслаўшыся на тое, што не зможа яго перадаць. Сам амбасадар сп. Краўчанка адмовіўся сустрэцца з удзельнікамі пратэсту.




# Злучаныя Штаты не прызналі вынікі выбараў у Беларусі



Прэс-служба Белага Дому 20 сьнежня распаўсюдзіла Заяву "Аб беларускіх выбарах і палітычным гвалце". У Заяве гаворыцца"

"Злучаныя Штаты рашуча асуджаюць дзеяньні беларускага ўраду, накіраваныя на задушэньне дэмакратычных працэсаў і непрапарцыйнае ўжываньне сілы супраць палітычных актывістаў, прадстаўнікоў грамадзянскай супольнасьці і журналістаў. Мы заклікаем неадкладна вызваліць усіх кандыдатаў на прэзыдэнта і сотні пратэстоўцаў, якія былі затрыманыя 19 і 20 сьнежня.

Злучаныя Штаты ня могуць прызнаць законнымі вынікі прэзыдэнцкіх выбараў, якія агучыла беларуская Цэнтральная выбарчая камісія 20 сьнежня".

*20.12.2011*

# Уражаньні назіральніка за выбарамі ў абасадзе

Калі вы ніколі не бывалі ў Беларускай амбасадзе ў Вашынгтоне, то вас яна напэўна ўразіць. Не тое, каб зваюе непрыступнай раскошай і багаццем, але ціха падкрадзецца з лагоднай памяркоўнасьцю, і вы, насамрэч, адчуеце хатні спакой на гэтым кавалку Беларусі. Паддаўшыся гэтаму настрою, лёгка забыцца на несправядлівасьці, якія адбываюцца на нашай зямлі.

У дзень выбараў, 19 сьнежня, прыйшоўшы station назіраць за выбарамі, мы з'явіліся перад амбасадай даволі рана, бо трэба было бачыць, як апячатваюць скрынку. Гэта было мае першае назіраньне, і, акрамя таго, трэба было выканаць свой грамадзянскі абавязак. У мяне таксама было жаданьне зразумець, што ўяўляюць сабою людзі, якія працуюць на таталітарную машыну так далека ад яе.

Хаця спачатку нашае з'яўленьне ў амбасадзе ў дзень выбараў у якасьці назіральнікаў выклікала насьцярожанасьць, на працягу дня з намі абыходзіліся даволі ветліва і нават намагаліся дэманстратыўна паказваць такія рэчы, як апячатваньне скрыні. З іншага боку, было адчувальна, што да нас ставіліся з надзвычайнай цікавасьцю і намагаліся высьветліць нашыя памкненьні, тым больш што звонку сабраўся пратэстуючы натоўп. Калі адкінуць у бок спробы паўплываць на нас інфармацыяй прапагандыстскага характару, то можна сказаць, што ў нас быў яшчэ шэраг проста цікавых размоваў, з якіх у мяне скаліся такія ўражанні пра супрацоўнікаў амбасады.

Па-першае, гэтыя людзі вераць, што ў Беларусі прыярытэт павінен надавацца сацыяльна-эканамічным правам, а не грамадзянска-палітычным. Гэтая мадэль разьвіцьця нагадвае Кітай. З таго выцякае, што беларусы маюць будаваць сваю краіну, не задаваючы палітычных пытаньняў. Але, усім вядома, хто адзінаасобна вырашыў, што гэта найлепшы шлях разьвіцця для беларускага народу. Беларускія чыноўнікі нават не задумваюцца пра тое, якім механізмам, як ні вулічны акцыямі (пры адсутнасці справядлівых выбараў), людзі Беларусі могуць дабівацца абароны гэтых сваіх сацыяльна-эканамічныя правоў.

Па-другое, супрацоўнікі амбасады вераць, што яны - палітычная эліта краіны, без якой яна не выжыве Можна ўявіць, што невялікай краіне, як Беларусь, насамрэч, цяжка адстойваць свае інтарэсы, тым больш знаходзячыся ў сферы геапалітычнага ўплыву Расеі і Эўразьвязу. Але адчулася, што беларускі народ яны прымаюць, у лепшым выпадку, за дзяцей, якія ня могуць адрозніць дабро ад зла і якія самі нічога не могуць вырашаць.

Па-трэцяе, бачна, што супрацоўнікі амбасадаў у некаторым сэнсе падрыхтаваныя да супрацы з беларускай эміграцыяй. Беларусы замежжа лічацца вельмі карыснымі і вартымі павагі, калі яны могуць дапамагчы Беларусі ў сферы эканомікі і навукі, але калі яны не будуць кранаць палітычных пытанняў. Яны зусім не ўлічваюць таго, што так губляецца патэнцыял, які змог бы дапамагчы разьвіваць краіну і ў іншых напрамках, такіх як палітыка, культура, сацыяльныя пытанні, і г.д. Усе гэтыя сферы грамадства ўзаемазлучаныя і разьвіцьцё адной магло б добра адбіцца на разьвіцьці іншых сфераў, у тым ліку і эканомікі. Сьвет не стаіць на месцы, і Беларусі варта было б рухацца наперад з дапамогай усіх рычагоў.

Як і ў іншых амбасадах Беларусі па сьвеце, дзе прысутнічалі назіральнікі, увечары, пасля зачыненьня дзьвярэй, стол са скрынкай абкружылі, і ў нас не было магчымасці рэальна прасачыць за падлікам галасоў. Галасаваць прыйшло толькі 30 чалавек, але і з той малой колькасцю галасоў не было празрыстасці. Навіны таго дня пра жорсткі разгон мітынгу пратэсту ў Менску гэтаксама надалі агідную рысу ўсім папярэднім размовам. Адзін з супрацоўнікаў неяк паскардзіўся, што дэманстранты перашкаджаюць ім выконваць абавязак, каб забяспечыць добрыя ўмовы для выбараў, аднак ён не згадаў пра тое, што ў іх абавязак таксама ўваходзіць забясьпечыць, каб выбары адлюстроўвалі сапраўдную волю народа.

*Вольга Рошчанка*
*Нью-Ёрк*

# Літоўскі Сэйм падтрымаў беларускую апазыцыю

19 сьнежня Сэйм Літоўскай Рэспублікі прыняў Рэзалюцыю "Аб выбарах прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь", у якой канстатавалася, што выбары ў Беларусі нельга прызнаць дэмакратычнымі.

Сэйм заклікаў улады Беларусі вызваліць усіх арыштаваных і прыняць патрабаваньні АБСЕ да арганізацыі выбараў. Таксама Сэйм прапанаваў ураду краіны вярнуцца да ранейшых санкцыяў супроць уладаў Беларусі з боку краінаў- чальцоў Эўразьвязу.

*19.12.2001*

# Глава Эўрапарлямэнту: Дзеяньні беларускай міліцыі ганебныя і выклікаюць абурэньне

Кіраўнік Эўрапарлямэнту Ежы Бузэк выступіў з востраю крытыкаю беларускіх уладаў у сувязі са зьбіцьцём і арыштам кандыдатаў ў прэзыдэнты ад апазыцыі. «Гэты інцыдэнт выстаўляе прэзыдэнцкія выбары ў найгоршым сьвятле" – гаворыцца ў Заяве, распаўсюджанай у Брусэлі.

*20.12.2010*

## МЗС Польшчы асудзіў “Масавыя зьбіцьцё і затрыманьні дэманстрантаў на вуліцах Менску”

У польскі МЗС 20 снежня быў выкліканы беларускі пасол Віктар Гайсёнак, якому была прадстаўлена пазіцыя знешнепалітычнага ведамства Польшчы з нагоды падзей у Беларусі, паведамляе БелаПАН.

## Гіда Вэстэрвэле пра падзеі ў Менску: "Гэта непрымальна"

Камэнтуючы падзеі ў Менску, кіраўнік нямецкага МЗС Гіда Вэстэрвэле адзначыў:
"Гэта непрымальна, калі кандыдатаў ад апазыцыі і іхніх прыхільнікаў, якія хочуць выкарыстаць свае правы на свабоду выказваньня думак, перасьледуюць, зьбіваюць, арыштоўваць".
"Я вельмі занепакоены паведамленьнямі, якія прыйшлі зь Менску ў мінулую ноч", адзначыў Вэстэрвэле ў сваёй заяве. Кіраўнік нямецкага МЗС заявіў, што ў ЭЗ будуць вельмі ўважліва разглядаць даклад АБСЭ пра выбары ў Беларусі”.

*20.12.2010*

## Чэхія заклікала Беларускія ўлады да “Максымальнай стрыманасьці”

Чэшскае замежнапалітычнае ведамства выказвае "глыбокую заклапочанасць у сувязі з актамі гвалту пад час прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі ", гаворыцца ў заяве, апублікаваным на сайце МЗС ўвечары 20 снежня. Міністэрства асуджае "шырокае выкарыстанне сілы беларускімі ўладамі супраць дэманстрантаў" і "глыбока занепакоенае затрыманьнем актывістаў апазіцыі, уключаючы кандыдатаў у прэзідэнты ".

*20.12.2010*

## Славакія лічыць палітычна матываваным затрыманьне апазыцыйных кандыдатаў

Пра гэта гаворыцца ў заяве МЗС краіны, апублікаваным 20 снежня.
МЗС Славакіі асуджае "ужыванне гвалту ў дачыненні да грамадзян Беларусі, якія выказалі нязгоду з маніпуляцыямі вынікаў выбараў на вуліцах Мінска па заканчэнні галасавання".

*20.12.2010*

## Вялікая Брытанія асудзіла гвалт у Беларусі

Брытанскі міністар па справах Эўропы Дэвід Лідынгтан запатрабаваў ад беларускіх уладаў абнародаваць інфармацыю аб лёсе затрыманых апазыцыйных кандыдатаў. У заяве Лідынгтана гаворыцца: "Вялікая Брытанія рашуча асуджае ўсе акты гвалту, якія суправаджалі прэзыдэнцкія выбары ў Беларусі. Мы вельмі заклапочаны тым, што ўлады, як выглядае, ужылі несувымерную сілу супраць дэманстрантаў на мітынгу 19 сьнежня ў Менску”.

*21.12.2010*

## Брытанскія артысты каля амбасады Беларусі ў Лёндане

Брытанскі драматург Том Стопард, актор Ізн Макелэн і актор Сэмюэль Уэст, зьвяртаючыся прыхільнікамі беларускага "Свабоднага тэатру", наладзілі перад амбасадай Беларусі ў Лёндане акцыю пратэсту супраць разгону мітынгу апазыцыі ў Менску. На мітынгу выступіла таксама Ірэна Багданава, сястра затрыманага беларускага апазыцыйнага кандыдата ў прэзыдэнты Беларусі Андрэя Саньнікава.

*21.12.2010*

## Камісар ААН асуджае пасьлявыбарчы гвалт у Беларусі

Вярхоўны камісар ААН па правах чалавека Наві Пілэй сёньня асудзіла пасьлявыбарчы гвалт у Беларусі.
Вярхоўны камісар ААН па правах чалавека запатрабавала неадкладнага вызваленьня апазыцыйных кандыдатаў і іх прыхільнікаў, якія ня ўдзельнічалі ў гвалтоўных дзеяньнях і не падбухторвалі да іх.

*21.12.2010*

## Швэцыя асуджае жорсткасьць беларускага рэжыму

Кіраўнік МЗС Швэцыі Карл Більт выступіў з рэзкай крытыкай жорсткіх нападаў беларускіх уладаў на дэманстрантаў у Менску і заклікаў Захад да адпаведнай рэакцыі.

*21.12.2010*

## Эўрапейскія праваабаронцы да беларускіх палітвязьняў: “Мы разам!”

Дзевяць эўрапейскіх праваабарончых арганізацый, сярод якіх швэдская ініцыятыва Östgruppen і нямецкая асацыяцыя па правах чалавека ў Беларусі на чале з Гансам-Георгам Вікам, зьвярнуліся да эўрапейскіх урадаў і грамадзкасьці з заклікам маральна і палітычна падтрымаць дэмакратычны рух у Беларусі і адэкватна адрэагаваць на дзеяньні беларускага рэжыму.

*20.12.2010*

## Мастакі з Амстэрдаму падтрымалі беларускіх вязьняў



24 сьнежня ў Гаазе (Нідэрлянды) перад будынкам амбасады Рэспублікі Беларусь адбылася акцыя ў падтрымку зьняволеных у Беларусі, арыштаваных пад час і пасьля дэманстрацыі 19 сьнежня. Акцыя была арганізаваная мастакамі з Амстэрдаму.

*24.12.2010*

## Міністры замежных спраў Нямеччыны, Польшчы, Швэцыі і Чэхіі - Карл Більт, Гіда Вэстэрвэле, Радаслаў Сікорскі і Карэл Шварцэнбэрг апублікавалі супольны артыкул у "Нью-Ёрк Таймс" пад загалоўкам "Лукашэнка прайграў"(Lukashenko the Loser)

*У артыкуле гаворыцца:*

“Пасьля таго, што адбылося на прэзыдэнцкіх выбарах у Беларусі ў нядзелю, адносіны паміж Эўрапейскім Зьвязам і прэзыдэнтам Беларусі Аляксандрам Лукашэнкам ня могуць застацца ранейшымі”. Артыкул заканчваецца сьцьверджаньнем, што “Эўропа ня будзе нямой!”

*24.12.2010*

## Нямецкія прафсаюзы патрабуюць вызваліць беларускую апазыцыю

Лідэр нямецкіх прафсаюзаў (DGB) і старшыня Міжнароднай канфэдэрацыі прафсаюзаў Міхаэль Зомэр зрабіў заяву, у якой патрабуе ад кіраўніцтва Нямеччыны і ЭЗ адпаведнай і выразнай рэакцыі ў сувязі з апошнімі падзеямі ў Менску.
Зомэр лічыць "недапушчальным", калі на ўсходняй мяжы ЭЗ нейкі “дэспат топча нагамі правы і свабоды чалавека”. Лідэр DGB адзначае, што сярод сотняў арыштаваных дэманстрантаў і старшыня Свабодных прафсаюзаў Беларусі Міхаіл Кавалькоў.

26.12.2010

## Канада асуджае рэпрэсіі супраць беларускай апазыцыі

Міністр замежных спраў Канады Лоўрэнс Кэнан выступіў з заявай, у якой выказаў занепакоенасьць лёсам Уладзімера Някляева і іншых затрыманых актывістаў апазыцыі.
“Канада выказалася ясна і пераканаўча, што асуджае рэпрэсіі супраць дэманстрантаў, у прыватнасьці, зьбіцьцё і затрыманьне многіх лідэраў апазыцыі. Мы зьяўляемся сьведкамі кроку назад, і я настойліва заклікаю ўлады Беларусі зьмяніць накірунак і адстойваць дэмакратычныя прынцыпы, паважаць правы чалавека і вяршэнства закона. Людзі Беларусі заслугоўваюць таго, каб іх голас быў пачуты без пагрозы гвалтоўнага пакараньня” -гаворыцца ў заяве.

*27.12.2010*

## Пікет у Маскве: Людзі ня бульба, хопіць саджаць!

Пад такім лёзунгам 27 сьнежня прайшоў мітынг ля беларускага пасольства ў Маскве. Яго арганізавалі калегі зьняволеней карэспандэнткі "Новой газеты" Ірыны Халіп, якія прыйшлі да пасольства у турэмных робах.
Сярод удзельнікаў пікету былі Аляксей Сіманаў, Павел Селін, Павел Гуціёнаў, Барыс Нямцоў, Уладзімір Рыжкоў. Удзельнікі пікету запатрабавалі спыніць тэрор у Беларусі.

*27.12.2010*

## Польшча гатова прыняць выключаных беларускіх студэнтаў

Міністр навукі і вышэйшай адукацыі Польшчы Барбара Кудрыцка заклікала польскія ўніверсытэты разгледзець магчымасьць прыёму на бясплатнае навучаньне студэнтаў, выключаных з ВНУ Беларусі за ўдзел у дэманстрацыях супроць рэжыму.
Міністэрства выказала гатоўнасьць аплаціць пражываньне беларускіх студэнтаў у Польшчы, а таксама пры дапамозе польскага Міністэрства замежных справаў аказаць ім падтрымку ў вырашэньні арганізацыйных пытаньняў.

*28.12.2010*

## Акцыя салідарнасьці ў Фінляндыі



Фінскія дзеячы культуры правялі ў Хельсынкі акцыю салідарнасьці ў падтрымку арыштаваных у Беларусі прэзыдэнцкіх кандыдатаў і іх прыхільнікаў. На прыступках лесьвіцы да будынка парлямэнту былі запаленыя сьвечкі.

*28.12.2010*

## Вацлаў Гавэл: “У Беларусі ізноў сотні палітычных вязьняў”

Чэшскі Цэнтр Міжнароднага ПЭН-клюбу прыняў Заяву па сытуацыі ў Беларусі. Яе падпісалі экс-прэзыдэнт Чэхіі, ганаровы старшыня Цэнтру Вацлаў Гавэл і дзейны старшыня Іржы Дедэчэк.
Асаблівая занепакоенасьць выказваецца за лёс паэта Уладзіміра Някляева, зьбітага ў дзень выбараў і скрадзенага са шпіталю.

## Францыя асуджае арышты прадстаўнікоў апазыцыі ў Беларусі

МЗС Францыі раскрытыкавала рашэньне беларускіх уладаў аб закрыцьці офісу АБСЕ у Менску. 4 студзеня намесьнік прэс-сакратара Крыстын Фажэ назвала гэтае рашэньне Мінска заслугоўваючым шкадаваньня. "Мы асуджаем арышты прадстаўнікоў апазыцыі, распачатыя 19 сьнежня. Заклікаем улады Беларусі да хутчэйшага вызваленьня ўсіх арыштаваных", - сказала сп-ня Фажэ.

*4.01.2011*

# Марылюіза Бэк: Захад павінен знайсьці магутны адказ на падзеі ў Беларусі



*Марылюіза Бэк*

У Менску з кароткім візытам пабывала дэпутатка нямецкага Бундэстагу Марылюіза Бэк. Яна прыехала ў Менск, нягледзячы на Калядныя канікулы, якія, па яе словах, супалі "з крутымі падзеямі ў Беларусі". Яна адзначыла, што цяпер самае галоўнае - лёс тых, хто ў турмах, бо "недапушчальныя катаваньні ў СІЗА ці ў КДБ у краіне, якая зьяўляецца сябрам АБСЭ".

Сп-ня Бэк лічыць, што, калі Захад успрымае сябе сур'ёзна, то павінен знайсьці "магутны адказ на тое, што адбываецца ў Беларусі цягам апошніх дзесяці дзён, і на тое, што адзін зь сябраў АБСЭ наагул не зважае на асноватворныя прынцыпы гэтай арганізацыі".

На пытаньне карэспандэнта "Свабоды", ці прызнае Нямеччына пасьля выбараў легітымнасьць прэзыдэнта Аляксандра Лукашэнкі і ці не падтрымаюць у Эўропе патрабаваньне апазыцыі аб правядзеньні новых выбараў, спадарыня Бэк сказала:

"Такія пытаньні яшчэ рана ставіць, бо пакуль гэтыя пытаньні не абмяркоўваліся супольна. Мы толькі ў студзені адновім іх абмеркаваньне…"

*28.12.2010*

# ЗША не пакінуць Беларусь адзін на адзін з дыктатарам



6 студзеня ў Дзяржддэпартаменце ЗША адбылася сустрэча Дзяржсакратара Гілары Клінтан з прадстаўнікамі беларускай грамадзкасьці. Непасрэднымі ўдзельнікамі сустрэчы былі лідэр грамадзянскай ініцыятывы "Мы памятаем" Ірына Красоўская, дырэктар Беларускага вольнага тэатра Натальля Каляда, беларусы з Вашынгтону – адвакатка Алеся Кіпель і сябра Рады БНР Алеся Сёмуха.

Галоўнаю тэмаю размовы была сытуацыя ў Беларусі пасьля прэзыдэнцкіх выбараў і распачатая ўладамі хваля рэпрэсій супроць лідэраў апазыцыі, прадстаўнікоў дэмакратычнага грамадзтва і незалежных сродкаў масавай інфармацыі. Цягам сустрэчы былі закранутыя розныя тэмы ад асабістага вопыту Натальлі Каляды, якая была арыштаваная 19 сьнежня, тэхналёгіяў прэсінгу рэжыму на незалежныя сродкі масавай інфармацыі, да стратэгіі ціску Злучаных Штатаў на беларускія ўлады. Удзельнікі сустрэчы выказалі аднязначнае меркаваньне, што у кантэксце сучаснай сытуацыі, тэма бясспрэчнага вызваленьня палітвязьняў павінна мець абсалютны прыярытэт на перамовах з Лукашэнкам. На заяўршэньне прысутныя абмеркавалі тэму дапамогі суб'ектам грамадзянскай супольнасьці Беларусі. Прыярытэты ў гэтым накірунку былі вызначаныя на падставе ўсяго сказанага на сустрэчы раней: падтрымка рэпрэсаваных і іх сямей, незалежных СМІ, выключаных з ВНУ студэнтаў, эфектыўных грамадзкіх арганізацый.

*6/01/2011*

# Італія ня будзе блякаваць санкцыі супраць Беларусі

12 студзеня ў Бэрліне пасьля сустрэчы з прэм'ер- міністрам Італіі Сільвіё Берлюсконі Канцлер Нямеччыны Ангела Мэркэль выказалася за аднаўленьне Эўразьвязам санкцыяў супраць Беларусі на знак пратэсту супраць жорсткага падаўленьня ўладамі ў Менску прадстаўнікоў дэмакратычнай апазыцыі.

"Мы адзіныя ў думцы, што ў сувязі з сытуацыяй, якая склалася ў Беларусі, пра гэта, на жаль, трэба казаць, – аб аднаўленьні санкцый, пра якія мы, па сутнасьці, ужо забыліся, – заявіла Мэркэль – Мы абодва з вялікай заклапочанасьцю сочым за разьвіцьцём падзей у Беларусі, асабліва што тычыцца стаўленьня ўладаў да апазыцыі".

Як паведаміла агенцтва Reuters са спасылкай на свае крыніцы, падчас сустрэчы з Меркель Берлюсконі заявіў, што Італія ня будзе блякаваць рашэньне аб аднаўленьні санкцый ЭЗ у дачыненьні да Беларусі, паведамляе Naviny.by.

Раней падчас нарады дыпляматаў высокага ўзроўню ў Брусэлі, дзе абмяркоўваліся прапановы аб увядзеньні санкцый з боку Эўразьвязу да беларускага рэжыму, толькі італьянскія прадстаўнікі выказаліся супраць такіх радыкальных захадаў.

*12.01.2011*

## Амбасадар Контра: дачыненьні Беларусі з Эўразьвязам могуць кардынальна зьмяніцца

Кіраўнікі дыпляматычных місіяў краін Эўразьвязу, якія акрэдытаваныя ў Менску, накіравалі супольную ноту ў Міністэрства замежных справаў Беларусі. Пра гэта 5 студзеня паведаміў на прэсавай канфэрэнцыі ў Менску амбасадар Вугоршчыны Фэрэнц Контра. Ад 1 студзеня Вугоршчына старшынюе ў Эўразьвязе. Амбасадар расказаў пра сутнасьць ноты, скіраванай у МЗС:

"Мы выказалі нашу занепакоенасьць сытуацыяй. Папрасілі інфармацыю пра стан здароўя арыштаваных людзей. І папрасілі сустрэчу з былымі кандыдатамі ў прэзыдэнты, каб атрымаць інфармацыю пра стан іх здароўя перад тым, як у Брусэлі пройдзе абмеркаваньне беларускай тэмы".

Амбасадар Контра згадаў, што міністры замежных справаў многіх эўрапейскіх краін прапанавалі ўвесьці санкцыі супраць Беларусі.

*05.01.2011*

## Рада Эўропы заклікае вызваліць кандыдатаў у прэзыдэнты, журналістаў і праваабаронцаў

12 студзеня ў Страсбуры Камітэт міністраў Рады Эўропы заклікаў беларускія ўлады неадкладна вызваліць арыштаваных кандыдатаў у прэзыдэнты на выбарах-2010, журналістаў і праваабаронцаў, паведамляе сайт арганізацыі.

"Камітэт міністраў просіць беларускія ўлады прадставіць дадатковую інфармацыю аб тым, на якой падставе кандыдаты ў прэзыдэнты, журналісты і праваабаронцы былі арыштаваныя пасьля выбараў. Яны павінны быць неадкладна вызваленыя, а захаваньне іх правоў павінна быць гарантавана, – гаворыцца ў заяве. Палітычныя свабоды павінны паважацца ў поўнай меры".

*12.01.2011*

## Кевін Спэйсі: «Жыве Беларусь!»

У рамках Глябальнай артыстычнай кампаніі салідарнасьці з Беларусьсю, якую распачалі акторы Брытаніі і падтрымалі творчыя амэрыканскія дзеячы, амэрыканскі артыст Кэвін Спэйсі зьвярнуўся да беларусаў са словам падтрымкі ў гэты час і скончыў сваю прамову па беларуску словамі: "Жыве Беларусь!"



Нагадаем, што Кэвін Спэйсі – зорка кінематографа, ў 1999 годзе быў прызнаны лепшым акторам дзесяцігоддзя, ён двухразовы ўладальнік прэміі "Оскар". Зараз Кэвін Спэйсі - кіраўнік старэйшага тэатра ў Лёндане Old Vic, на сцэне якога за 200 гадоў бесперапыннай працы адыгралі ўсе самыя знакамітыя брытанскія акторы.

## БНФ пазбаўляюць офісу

Падчас навагодніх сьвятаў на Управу Партыі БНФ дастаўлены ліст са ЖРЭА Савецкага р-ну г. Менску. У ім паведамляецца, што Партыя БНФ і ГА "БНФ Адраджэньне" павінныя вызваліць памяшканьне па заканчэньні тэрміну арэнды. Новыя дамовы арэнды заключацца ня будуць. Фармальная прычынай называецца тое, што нібыта цягам 3-х месяцаў у 2010 годзе ўзьнікамі запазычанасьці на аплаце арэнды.

"Управа Партыі БНФ рашуча пратэстуе супраць незаконных дзеяньняў уладаў. Мы лічым названы ліст формай палітычнага ціску на Партыю БНФ і ўсё незалежнае беларускае грамадзтва", паведамляе прэсавая служба партыі.

## Адвакат Някляева: «Права на абарону ёсьць, але яно не рэалізавана»

Ужо 18-ты дзень, з 29 сьнежня мінулага году адвакаты экс-кандыдатаў у прэзыдэнты Ўладзімера Някляева, Андрэя Саньнікава, Мікалая Статкевіча і Аляксея Міхалевіча, журналістаў Ірыны Халіп і Натальлі Радзінай, а таксама некаторых актывістаў выбарчых штабоў ня могуць сустрэцца з сваімі падабароннымі. Пры гэтым пракуратура Менску заяўляе, што «затрыманыя па крымінальнай справе ў якасьці падазроных забясьпечаны адвакатамі і права на абарону іх выконваецца».

*15.01.2011*

## Вернікі зьвярнуліся да патрыярха Кірылы

30 актыўных праваслаўных вернікаў з Беларусі зьвярнуліся 24 сьнежня да патрыярха Кірыла. У звароце гаворыцца:

"Пад час Вашага візіту ў Менск Вы казалі, што атаясамляеце сябе з беларускім народам. Але, цяпер ва ўмовах ўсё ўзрастаючых перасьледаў іншадумцаў у нашай краіне, калі прагучала і атрымала шырокі рэзананс у беларускім грамадзтве Ваша, як кіраўніка Царквы, віншаваньне прэзыдэнту Рэспублікі Беларусь з пераабраньнем на чацьвёрты тэрмін, можа скласьціся ўяўленьне, што Вы атаясамляеце сябе не з усім беларускім народам, а толькі з некатораю яго часткаю, пакідаючы без увагі і падтрымкі зусім не малую частку народу, а, менавіта, людзей неабыякавых да лёсу сваёй краіны…"

# Рэпрэсіі ў Беларусі працягваюцца

## Лукашэнка: патрабаваньні аб вызваленьні затрыманых непрымальныя



Лукашэнка заявіў, што патрабаваньні Захаду аб вызваленьні затрыманых за арганізацыю і ўдзел у несанкцыянаванай акцыі 19 сьнежня ў Менску, у тым ліку экс-кандыдатаў, непрымальныя.
"Купка адшчапенцаў магла перавярнуць краіну. Нават я шмат чаго не ўяўляў сабе", — сказаў А. Лукашэнка. Паводле яго слоў, за арганізатарамі масавых беспарадкаў стаялі "пэўныя людзі не з нашай дзяржавы, пэўныя структуры, вялікія грошы".

## З офіса Беларускага ПЭН-цэнтру і газэты "Наша Ніва" вынесьлі аргтэхніку

Супрацоўнікі КДБ забралі больш дзесяці сістэмных блёкаў, дыскі, флешкі, дакументы іх не цікавілі.Ператрус быў праведзены 28 сьнежня і працягваўся больш 3 гадзінаў.
Журналістаў у пад'езд дому, дзе знаходзіцца офіс, не пускалі, было адключана сьвятло.
Як вядома, Ганаровым старшынём Беларускага ПЭН-цэнтру з'яўляецца арыштаваны кандыдат ў прэзыдэнты Уладзімір Някляеў.

## Польшча папрасіла ЗША дапамагчы беларускім дысідэнтам

Польшча зьвярнулася з просьбаю да ЗША аб аказаньні фінансавай падтрымкі беларускім дысідэнтам. Польскі амбасадар ў ЗША Робэрт Купіцкі параўнаў дзеяньні дэмакратычных актывістаў у Беларусі з рухам "Салідарнасьць" у Польшчы, якое існавала пад час камунізму.
Амбасадар запрасіў ЗША у ліку іншых краінаў прыняць удзел у донарскай канфэрэнцыі па падтрымцы руху супроць Аляксандра Лукашэнкі, якая адбудзецца напачатку лютага ў Варшаве

*6 .01.2011*

## Беларускае тэлебачаньне пра "дзяржаўны пераварот"

9 студзеня Першы беларускі тэлеканал падаў разгорную афіцыйную вэрсію падзей 19 сьнежня ў Менску ў дакумэнтальным фільме пад назваю "Плошча. Жалезам па шкле", дзе відавочна праглядалася імкненьне ўладаў давесьці, што гэта была спроба дзяржаўнага перавароту.
Нечаканая ў фільме былаа агучаная вэрсія, што Някляева зьбілі не спэцназаўцы, а канкурэнты ад апазыцыі на выбарах.
Былі названыя сумы ў мільёнах даляраў, якія нібыта меў атрымаць ці атрымаў штаб Някляева на выбарчую кампанію, і было сказана, што фінасаваньне ішло ад аднаго амэрыканскага і аднаго эўрапейскага фондаў. Гаварылася таксама, што дзьверы Дома ўраду грамілі не правакатары са спэцслужбаў, а мітынгоўцы.

## Крымінальная справа аб масавых беспарадках

Праваабарончы цэнтр "Вясна" паведаміў, што на 10.01.2011 па справе аб масавых беспарадках абвінавачанымі з'яўляюцца 25 чалавек, з іх 21 -- утрымліваюцца пад вартай, 4 – пад падпіскай аб нявыездзе; яшчэ 15 – у статусе падазраваных, з іх 8 – пад вартай, 5 пад падпіскай аб нявыездзе, 2 – знаходзіцца па-за межамі краіны. Але, гэтыя звесткі могуць быць няпоўнымі.
З іх Праваабарончая арганізацыя «Міжнародная амністыя" прызнала вязьнямі сумленьня 16 абвінавачаных. Гэта пяць экс-кандыдатаў у прэзыдэнты: Аляксей Міхалевіч, Мікалай Статкевіч, Уладзімер Някляеў, Рыгор Кастусёў і Андрэй Саньнікаў, рэдактарка сайту charter97.org Натальля Радзіна, журналістка і жонка Андрэя Саньнікава Ірына Халіп, рэдактар газэты «Товарищ» і давераная асоба Ўладзімера Някляева Сяргей Вазьняк, давераная асоба Някляева Аляксандр Фядут, кіраўнік выбарчага штабу Саньнікава Ўладзімер Кобец, давераныя асобы Саньнікава Дзьмітрый Бандарэнка і Аляксандр Арастовіч, кіраўнік выбарчага штабу Статкевіча Сяргей Марцалеў, давераная асоба Ярослава Раманчука Анатолм Лябедзька, кіраўнік выбарчага штабу Віталя Рымашэўскага Павал Севярынец і намесьніца старшыні моладзевай арганізацыі «Малады фронт» Наста Палажанка.
"Міжнародная амністыя" працягвае сачыць за справамі іншых абвінавачаных у сувязі з дэманстрацыяй 19 сьнежня, сярод якіх, як мяркуюць праваабаронцы, "могуць быць новыя вязьні сумленьня".

*11.01.2011*

## Генсек ААН заклікаў вызваліць усіх палітвязьняў Беларусі

Генеральны сакратар ААН Пан Гі Мун заклікаў да вызваленьня журналістаў, апазыцыйных кандыдатаў у прэзыдэнты і іх прыхільнікаў, якія працягваюць утрымлівацца пад вартай у Беларусі пасьля прэзыдэнцкіх выбараў.

*11.01.2011*

## Беларусь зачыняе офіс АБСЭ ў Менску

Беларускі бок вырашыў не падаўжаць мандат офіса АБСЭ ў Менску. 31 сьнежня сталы прадстаўнік Беларусі пры міжнародных арганізацыях у Вене Аляксандар Сычоў паінфармаваў аб гэтым сяброў Сталай рады АБСЭ.

## Зварот беларускай грамадзкасьці да Эўрапарляманту

Шэраг дэмакратычных палітыкаў, а таксама сваякі арыштаваных за акцыю ў дзень прэзыдэнцкіх выбараў 19 сьнежня, прынялі Зварот да дэпутатаў Эўрапейскага Парляманту пра сытуацыю ў Беларусі з патрабаваньнем не прызнаваць абвешчаных вынікаў выбараў і неадкладна вызваліць зьняволеных.

*11.01.2011*

## Новая заява Эўрапарляманту па Беларусі

Кіраўнік Эўрапарляманту Ежы Бузэк, камітэт замежных справаў, парлямэнцкі падкамітэт правоў чалавека, а таксама дэлегацыі Эўрапарляманту па сувязях зь Беларусьсю і ў Парлямэнцкай асамблеі Ўсходняга партнэрства (Эўранэст) выступілі з сумеснай заявай адносна Беларусі.
Дакумэнт прыняты па выніках дыскусіі, якая адбылася ў Брусэлі 12 студзеня, паведамляе прэс-служба Эўрапарляманту. Заява зьмяшчае наступныя асноўныя патрабаваньні для Эўразьвязу:
- Увядзеньне забароны на ўезд і замарозка рахункаў беларускіх чыноўнікаў, якія ўдзельнічалі ў гвалтоўным падаўленьні 19 сьнежня 2010 г.. Адмена гэтых мер павінна залежаць ад вызваленьня ўсіх апазыцыйных лідэраў, затрыманых у сувязі з падзеямі;
- Узмацненьне фінансавай падтрымкі беларускай грамадзянскай супольнасьці, незалежным СМІ і НДА;
- Павелічэньне фінансавай дапамогі і стыпэндый беларускім студэнтам, выключаным з унівэрсытэтаў за ўдзел у мірных пратэстах;
- Зьніжэнне візавых збораў для беларускіх грамадзян і нават іх адмена для студэнтаў, навукоўцаў і людзей мастацтва;
- Перагляд пазыцыі міжпарлямэнцкіх адносін з Беларусьсю, у тым ліку ў кантэксьце Парлямэнцкай асамблеі Ўсходняга партнэрства (Эўранэст).
У ходзе дэбатаў Бузэк заявіў, што беларускія ўлады павінны зьняць абвінавачваньні з арыштаваных, а тым з іх, хто мае патрэбу ў мэдычнай дапамозе, яна павінна быць аказана належным чынам. Па словах кіраўніка Эўрапарляманту, гэта ўмова зьяўляецца абавязковай, калі Беларусь хоча мець якія-небудзь дачыненьні з Эўропай, адзначае прэс-служба.

*13.01.2011*

## Наступ лукашэнкаўскай прапаганды

Усьлед за паказам прапагандыскага фільму на БТ газэта Адміністрацыі прэзыдэнта «Советская Белоруссия» 14 студзеня апублікавала артыкул «За кулісамі адной змовы», у якім, як заяўляе рэдакцыя, друкуюцца «некаторыя рассакрэчаныя дакумэнты пра падзеі 19 сьнежня». У публікацыі сьцьвярджаецца, што за спробаю дзяржаўнага перавароту ў Беларусі, як улады называюць падзеі 19 сьнежня, стаяць спецслужбы Польшчы і Нямеччыны.
Як паведамляе міністэрства замежных спраў Польшчы, амбасадар Беларусі ў Польшчы Віктар Гайсёнак 14 студзеня быў выкліканы ў Міністэрства замежных справаў Польшчы з нагоды публікацыі артыкулу ў газэце «Советская Белоруссия».
Польшча выказала пратэст супраць гэтых «абсурдных абвінавачваньняў. Свой пратэст выказала і Нямеччына.

# Мядзьведзеў павіншаваў Лукашэнку зь перамогай на выбарах

Прэзыдэнт Расійскай Фэдэрацыі Дзьмітрый Мядзьведзеў 25.12.2010 павіншаваў новаабранага Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі. «Жадаю Вам посьпехаў, а братэрскаму беларускаму народу — міру і працьвітаньня», — гаворыцца ў віншаваньні.
Аляксандра Лукашэнку павіншавалі таксама лідэры Вэнэсуэлы, Кубы, Ірану, Сырыі, Віетнаму, Кітаю а таксама кіраўнікі былых савецкіх рэспублік — Азэрбайджану, Арменіі, Грузіі, Казахстану, Узьбэкістану, Украіны.



*Аляксандар Лукашэнка і Дзьмітрый Мядзьведзеў*

# Зварот

## беларускай дэмакратычнай грамадзкасьці сьвету да міжнародных арганізацый, уладаў краінаў сьвету, да сусьветнай грамадзкасьці

19 сьнежня 2010 г. у Рэспубліцы Беларусь быў здзейсьнены гвалтоўны захоп улады дыктатарам Аляксандрам Лукашэнкам.

У гэты дзень у Беларусі павінны былі адбыцца выбары прэзідэнта. Аднак, выбараў не адбылося.

Адбылася грубейшая фальсіфікацыя выбараў шляхам беспрэцэдентнага адміністрацыйнага ціску, прымусовага датэрміновага галасавання, маніпуляцый з Інтэрнэтам, запалохвання выбаршчыкаў.

Тысячы грамадзян Беларусі, якія ўсьведамлялі фальсіфікацыю выбараў, выйшлі на вуліцы Менску, каб мірным шляхам выказаць свой пратэст і нязгоду з фальшаваньнем выбарчай кампаніі. Згодна з Дэкларацыяй правоў чалавека, народ, які ня мае канстытуцыйных магчымасьцяў зьмяніць уладу, мае права зьмяніць яе шляхам мірнага массавага пратэсту.

Не дачакаўшыся нават папярэдніх вынікаў галасаваньня, адзін з кандыдатаў, а менавіта дзейсны прэзідэнт краіны, дыктатар Лукашэнка, выкарыстаўшы сваю кіраўнічую пасаду і загадзя падрыхтаваўшы правакацыі з боку сілавых структураў, зьдзейсьніў нечувана брутальнае зьбіцьцё людзей на плошчы. На мірных мітынгоўцаў былі кінутыя сілы міліцыі і атрадаў спецыяльнага прызначэньня. Таксама былі выкарыстаны вайсковыя сілы, якія могуць прымяняцца толькі ў мэтах абароны краіны ад зьнешніх ворагаў.

У выніку масавага зьбіцьця простых выбаршчыкаў і разгону мірнай дэманстрацыі адбыўся чарговы сілавы захоп улады дзейным дыктатарам Лукашэнкам, у краіне ўсталявалася хунта. Сотні мітынгоўцаў і проста мінакоў былі схоплены і кінутыя за краты, кандыдаты ў прэзідэнты жорстка зьбітыя, параненыя, арыштаваныя. Кандыдат Уладзімір Някляеў быў зьбіты да непрытомнасьці яшчэ да закрыцьця выбарчых участкаў і не дайшоўшы нават да Плошчы, дзе адбывалася акцыя пратэсту. А потым ён быў выкрадзены службоўцамі КДБ са шпіталю, дзе ён знаходзіўся ў рэанімацыі і да сёньня ягоны лёс невядомы.

Былі зьбітыя і арыштаваныя сябры штабоў і ініцыятыўных груп кандыдатаў у прэзідэнты, многія журналісты.

Гвалт над воляй народу завяршыўся крывавай бойняй. Сіла і жорскасьць, з якой зьбівалі людзей, несуразмерная з мірным характарам дэманстрацыі пратэсту. Адзінае, чаго патрабавалі людзі - гэта новых дэмакратычных справядлівых выбараў.

Ад падзеяў "крывавай нядзелі" пачаўся і да гэтага часу ў краіне адбываецца тэрор супраць нязгодных. Ідуць масавыя арышты,ператрусы ў кватэрах актывістаў і офісах грамадзкіх арганізацый. Людзей зьбіваюць, катуюць у турмах, да іх прымяняюцца сродкі псіхатропнага ўзьдзеяньня. Адвакаты не маюць магчымасьці сустракацца са сваімі падабароннымі.

Мы, сябры беларускіх грамадзкіх арганізацый ў замежжы і ў Беларусі, а таксама асобныя людзі, якім неабыякавы лёс нашай Бацькаўшчыны-Беларусі, у гэты цяжкі і вырашальны для далейшага лёсу нашай краіны час зьвяртаемся да міжнародных арганізацый, уладаў краінаў сьвету, да сусьветнай грамадзкасьці з просьбаю падтрымаць нашыя намаганьні ліквідаваць дыктараскі рэжым Лукашэнкі і даць беларускаму народу магчымасьць наладзіць вольнае дэмакратычнае жыцьцё.

Мы просім:

- не прызнаваць дыктатара Лукашэнку і ягоную хунту сапраўдным прадстаўнікамі ўлады Рэспубліка Беларусь, лічыць, што падзеі, якія адбыліся ў Рэспубліцы Беларусь 19 сьнежня 2010, зьяўляюцца незаконным сілавым захопам улады з выцякаючымі з гэтага юрыдычнымі наступствамі.
- патрабаваць неадкладнага вызваленьня з турмаў усіх зьняволеных за ўдзел у мірнай дэманстрацыі пратэсту 19 сьнежня 2010.
- патрабаваць стварэньня умоваў для правядзеньня ў Беларусі новых дэмакратычных прэзыдэнцкіх выбараў без удзелу грамадзяніна Лукашэнкі.
- падтрымаць з боку праваабарончых арганізацый наш намер узбудзіць крымінальную справу супроць Аляксандра Лукашэнкі і ягоных памагатых па факту брутальнай расправы з удзельнікамі мірнай акцыі пратэсту супроць фальсіфікацыі выбараў, а таксама за іншыя злачынствы, учыненыя рэжымам за ўсе гады праўленьня.
- не ужываць ва ўсіх выпадках вызначэньне "прэзыдэнт Лукашэнкам" ці "кіраўнік беларускай дзяржавы", а карыстацца толькі імем "Аляксандр Лукашэнка" ці "грамадзянін Лукашэнка".

Істотным цяпер зьяўляецца таксама пытаньне: чаму Лукашэнка павёў сябе менавіта такім чынам? З нашага меркаваньня, гэта стала магчымым з-за двухсэнсоўнай зьнешняй палітыкі як з Захаду, гэтак і з Усходу.

Міжнародная палітычная дзейнасьць з боку Захаду ў дачыненьні да дыктатуры Лукашэнкі (заляцаньні з дыктатарам, угаворы да "паступовай дэмакратызацыі дыктатуры") цалкам праваліліся. Менавіта такія паводзіны і развязваюць дыктатару рукі. Лукашэнка на падставе свайго мінулага вопыту спадзяецца і зараз, што як бы ён ні паводзіўся, якія законы ні парушыў, якія б злачынствы ні зьдзейсьніў, які б гвалт ні абрынуў на беларускі народ, міжнародная супольнасьць яму ўсё даруе. Больш за тое, праз пэўны час пасьля рознага роду ўшчуваньняў, яму зноў дадуць мільярдныя пазыкі, якія пойдуць на ўзмацненьне ягонага рэжыму. Ён ізноў будзе гатовы гандляваць зьняволенымі ў турмах закладнікамі, каб дабіцца для сябе прызнаньня з боку Заходніх краінаў і зьняцьця санкцыяў.

Мы выказваем удзячнасьць уладам Злучаных Штатаў Амэрыкі, якія адразу прынцыпова заявілі аб непрызнаньні вынікаў выбараў ў Беларусі.

Брутальныя дзеяньні беларускіх уладаў асудзілі ўлады і грамадзкасьць шмат якіх іншых краін – Канады,Польшчы, Швэцыі, Літвы, Нарвэгіі, Бэльгіі,Вялікабрытаніі, Нямеччыны, Чэхіі і інш.

У той жа час улады Расеі і кіраўніцтва Расейскай Праваслаўнай Царквы павіншавалі Лукашэнку з перамогаю на выбарах, тым самым афіцыйна прызналі іх вынікі і дэкляруюць падтрымку крымінальным дзеяньням Лукашэнкі. З расейскага боку апошнім часам не раз адкрыта прызнавалася, што цягам усяго часу праўленьня Лукашэнкі яны матэрыяльна падтрымлівалі дыктатара.

Са смуткам і занепакоенасьцю мы адзначаем, што віншаваньні Лукашэнку з перамогаю даслалі таксама ўлады Кітаю, Ірану, Венесуэлы і іншых прыхільных да Лукашэнкі урадаў, якія падзяляюць ягоныя падыходы кіраваньня краінаю.

Мы зьвяртаемся да дэмакратычнай міжнароднай грамадзкасьці з просьбаю прымусіць свае ўрады давесьці ня толькі словамі сваю прыхільнасьць дэмакратычным прынцыпам. Мы чакаем не дэкляраций, а канкрэтных захадаў супраць злачыннага рэжыму ў Беларусі. Мы аддаем сабе справаздачу ў тым, што горш, чым ёсьць, беларускаму народу ня будзе ад жорсткіх санкцыяў у дачыньні да хунты Лукашэнкі.

# Свабоду палітзьняволеным!

Пад такім лёзунгам 16 студзеня прайшла Акцыя салідарнасьці ў Беларусі і па ўсім сьвеце. Дэмакратычныя актывісты патрабавалі ад Лукашэнкі неадкладнага вызваленьня арыштаваных удзельнікаў мітынгу пратэсту 19 сьнежня ў Менску.



**Акцыя пратэсту ў Лёндане**



**У Менску**



**У Варшаве**

***8 студзеня споўнілася 100 гадоў ад нараджэньня беларускага пісьменьніка ў замежжы Уладзімера Дудзіцкага. Лявон Юрэвіч – укладальнік зборніка твораў пісьменьніка падрыхтаваў з гэтай нагоды артыкул пра жыцьцёвы і творчы лёс пісьменьніка.***



*Уладзімер Дудзіцкі*

Сярод прызнаных, часам можа і не такіх таленавітых, але бясспрэчна сур'ёзных і правільных беларускіх творцаў на эміграцыі Дудзіцкі вылучаўся хоць бы тым, што за сапраўднага паэта яго ніхто не ўважаў — ані тыя, хто працаваў зь ім на Радыё «Вызваленьне», ані тыя, хто піў зь ім, ані тыя, хто нават друкаваў ягоныя вершы ў «Бацькаўшчыне» ці якім іншым пэрыёдыку.

У такой парадаксальнай сытуацыі, зрэшты, вінаватыя ня жорсткі капіталістычны сьвет аб абыякавасьць грамадзтва, а сам наш герой — enfant terrible беларускай творчай (і палітычнай) эміграцыі.

Нарадзіўся Уладзімер Гуцька - такое было ягонае сапраўднае прозьвішча — 8 студзеня 1911 г. (23 снежня 1910 г. паводле старога стылю) у вёсцы Дудзічы Ігуменскага павету (сёньня Пухавіцкі раён Менскай вобл.). Сям'я была немалою: чатыры сыны і чатыры дачкі. Бацька памёр, калі Уладзімеру было тольакі два месяцы, таму гадаваўся будучы паэт пры айчыме. Спачатку Дудзіцкі вучыўся ў мясцовай чатырохгадовай школе, пазьней — у менскай сямігодцы. Тут ён і пачаў пісаць свае вершы, якія зьмяшчаліся ў насьценнай газэце. Першы твор называўся «Сьветач».

Зацікаўленьне літаратурай прывяло Ўладзімера Дудзіцкага ў літаратурны гурток пры Менскім клюбе чыгуначнікаў, дзе праводзіліся заняткі, выдаваўся на шклографе часапіс «Першыя крокі», ладзіліся вечарыны. Да маладых гурткоўцаў прыходзілі Міхась Зарэцкі, Міхась Чарот, Валеры Маракоў, Тодар Кляшторны.

Па заканчэньні сямігодкі ў 1927 г. Дудзіцкі паступіў у Беларускі пэдагагічны тэхнікум імя Ўсевалада Ігнатоўскага. Тут, у «Беларускім ліцэі», як часам называлі гэтую навучальную ўстанову, вучылася нямала будучых пісьменьнікаў. Настаўнікі былі адпаведныя: сам Усевалад Ігнатоўскі, Язэп Лёсік, Якуб Колас. Апрача насьценнай газэты выдаваўся літаратурны часапіс «Крыніца».

Тэхнікум быў адным з прыкметных цэнтраў беларускасьці. Таму, калі пачалося змаганьне зь «беларускім нацыянал-дэмакратызмам», паляцелі галовы і выкладчыкаў, і студэнтаў. Разам зь Сяргеем Астрэйкам, Лукашам Калюгам і Сяргеем Русаковічам Дудзіцкага выключылі. Бацькі ўжо арыштаванага на той час Антона Адамовіча далі ім прытулак.

«Пасьля доўгага і паўгалоднага бадзяньня», як пазьней згадваў Уладзімер Дудзіцкі, у 1929 г. пры дапамозе Лукаша Калюгі ды Ўладзімера Хадыкі ён уладкаваўся на працу стыльрэдактарам газэты «Савецкая Беларусь» і перакладчыкам у Навукова-тэхнічным выдавецтве. Адначасова ён вучыўся на літаратурна-лінгвістычным факультэце Вышэйшага пэдагагічнага інстытуту.

Але ў ноч з 22 на 23 лютага 1933 г. Уладзімер Дудзіцкі быў арыштаваны НКВД і асуджаны да трох гадоў лягераў. Падчас арышту зьнік і падрыхтаваны да публікацыі зборнік паэта «Песьні і думы». Пакараньне ён адбываў у Новасібірску і Марыінску.

Па заканчэньні тэрміну Дудзіцкага саслалі на два гады ў Сярэднюю Азію, дзе ён і жыў у Ташкенце да канца 1937 г. і адкуль яго датэрмінова вызвалілі з прычыны захворваньня на малярыю.

Па дарозе ў Беларусь Дудзіцкага абрабавалі — скралі рэчы, нявялікія грошы і, галоўнае, пашпарт. Таму на станцыі ў Менску яго арыштавалі зноў. Па высьвятленьні мясцовы аддзел НКВД прапанаваў Дудзіцкаму цягам 24 гадзін пакінуць сталіцу і выехаць у Віцебск ці Барысаў. Ён абраў Віцебск, дзе нейкі час працаваў у газэце «Віцебскі пралетары», а потым да канца 1940 г. выкладаў беларускую мову ў розных навучальных установах горада пакуль яго ня звольнілі, бо «не патрапіў забясьпечыць партыйнасьць у выкладаньні мовы і літаратуры».

Нарэшце Дудзіцкі здолеў вярнуцца ў Менск, дзе пры дапамозе Аўгена Калубовіча ўладкаваўся на працу ў часапіс «Савецкая школа». Праўда, ненадоўга, бо ўжо праз месяц яго звольнілі на загад наркома асветы як «ворага народу». Пасьля доўгіх пошукаў працы Дудзіцкі нарэшце трапіў у Ветэрынарны тэхнікум у вёсцы Курасоўшчына пад Менскам. Там яго і засьпела вайна.

У часе вайны Дудзіцкі быў вельмі актыўны: адзін з арганізатараў «Беларускай газэты», загадчык аддзела культуры і асьветы ў Менску і Менскай акрузе, школьны інспэктар у Барысаве, рэдактар часапісу «Беларус на варце». У гэты ж час ён падрыхтаваў да друку новы зборнік паэзіі «Напярэймы жаданьням» і зборнік прозы. Ніводзін зь іх сьвету не пабачыў.

Найбольш часу забірала праца ў Беларускім культурным згуртаваньні, дзе яму дасталася пасада загадчыка аддзела прапаганды. Узначальваў Згуртаваньне даўні знаёмец Дудзіцкага Аўген Калубовіч; у склад Цэнтральнага ўраду ўваходзілі паэтка Натальля Арсеньнева, рэжысэр і актор Вячаслаў Сэлях, кампазытар Мікола Шчаглоў, знаўца музэйнай справы Антон Шукелойць. Рэдактарам аднаўленага літаратурна-мастацкага часапісу «Ўзвышша» быў Юрка Віцьбіч.

Як адказны за прапаганду, Дудзіцкі паклаў нямала высілкаў на беларусізацыю гораду: тэатру, замяніўшы там усё кіраўніцтва; школаў, спрычыніўшыся да заснаваньня часапісу «Беларуская школа», які па пэўным часе мусіў замяніць савецкія падручнікі.

Дудзіцкі належыў да тых, хто даволі хутка пазбавіўся ілюзіяў адносна палітыкі новай акупацыйнай улады. Пра гэта сьведчаць і ягоныя вершы, і ўдзел у адным зь першых нелегальных паседжаньняў у Менску, на якім прынялі пастанову аб стварэньні Беларускай незалежніцкай партыі. Але нянавісьць да савецкай улады была мацнейшая. Да гэтага дадалася асабістая трагедыя: партызаны, не схіліўшы Дудзіцкага да супрацоўніцтва, забілі ягоную маці.

Тым часам, напрыканцы вайны — мо праз сваю авантурнасьць, а мо ад неспатоленай прагі надалей працягваць змаганьне з Саветамі — Уладзімер Дудзіцкі далучыўся да генэрала Андрэя Ўласава ў якасьці прапагандыста стварэньня беларускіх аддзелаў. Маніфэст Уласава, абвешчаны ў Празе 14 лістапада 1944 г. і выдрукаваны ў газэце «Голос народа», быў падпісаны 37 сябрамі КОНР (Камітэт вызваленьня народаў Расіі) і 12 кандыдатамі. Беларусаў сярод іх не было, але Дудзіцкаму, і так ня надта папулярнаму сярод беларускага актыву, яшчэ доўга закідалася тое супрацоўніцтва як здрада беларускай незалежніцкай ідэі.

Пасьля вайны Уладзімер Дудзіцкі апынуўся ў Зальцбургу ва ўкраінскім лягеры ДП з беларускай сэкцыяй. Паэт арганізаваў тут Беларускі нацыянальны камітэт літаратурна празь дзесяць дзён пасьля капітуляцыі Нямеччыны, разам з Алесем Салаўём, Міколам Ганьком і Алесем Грыцуком наладзіў выданьне часопісу «Пагоня» і газэты «Зь беларускага жыцьця».

У лягеры Дудзіцкі быў параўнальна нядоўга і неўзабаве выехаў у Вэнэсуэлу, дзе ў сярэдзіне 1949 г. зарганізаваў першую, а мо і адзіную тамтэйшую беларускую арганізацыю — Аб'яднаньне беларусаў у Вэнэсуэле (АБВ). Знайшоў паэт працу ў Міністэрстве будоўлі садоў і паркаў у якасьці садоўніка, стаў няблага зарабляць.

Па словах самога пісьменьніка ён у той час шмат пісаў: «Падрыхтаваў да друку два зборнікі вершаў — «Хвалі» і «Да блізкіх і далёкіх», зборнік апавяданьняў «Купальскія росы» (зборнікамі, пэўна ж, называю ўмоўна, бо ўсё роўна нідзе ня выдам). Скончыў пісаць аповесьць «Голас крыві» — 8 друкаваных аркушаў. Працую над дзьвума вялікімі паэмамі».

Рукапісы згаданых зборнікаў зьніклі; ацалела тая частка спадчыны, што дасылалася аўтарам у пэрыядычныя выданьні — спачатку ў Нямеччыну, пазьней у ЗША. Вялікая адлегласьць паміж аўтарам і выдаўцамі ўскладняла кантакты, выклікала нараканьні на «недрукаваньне», а яшчэ больш — на адвольнае рэдагаваньне («Мы-ж не якія-небудзь зломкі, каб нашыя творы правяраліся, як вучнёўскія дыктанты…»).

Акурат у гэты час Дудзіцкі зьнік. Лісты перасталі прыходзіць, дасланыя яму заставаліся без адказу. Юрка Віцьбіч пачаў шукаць яго праз агульных знаёмых беларусаў, што былі выехалі таксама ў Вэнэсуэлу. Як потым тлумачыўся сам паэт, «благога нічога не сталася, але і добрым не магу пахваліцца. Першага кастрычніка леташняга году давялося страціць працу, усё здабытае, пакінуць кватэру і выехаць (пасьля пэўнага часу) у далёкую, глухую і сьпякотную вобласьць краю. Прычына: пэрсанальныя інтрыгі і дзікія паклёпы прыватнага і палітычнага характару. За адзінаццаць месяцаў працы ў глыбіні краіны бруд мярзотнікаў змыўся, але справа не палепшылася: вельмі цяжка стаць нагамі на ўцёклы грунт. Пакуль што не памагаюць і вялікія сувязі з дзяржаўнымі кіраўнікамі; сьпіцы і калючкі пачынаюцца зь нізоў. «Хождение по мукам» выматала душу і абясьсіліла матэрыяльна. Вось ужо пяты месяц вішу, як кажуць, паміж небам і зямлёю, чакаючы якога-небудзь прызначэньня. Цяжка сказаць, як доўга будзе трываць маё каменнае церпеньне».

Потым лісты ад Уладзімера Дудзіцкага пачалі прыходзіць у ЗША ў адмысловых капэртах, на якіх было выдрукавана «Dr. Wladimir R. Hicky, Unidad Agricola de Turen — Instituto Agrario Nacional, Centro de Experimentacion y Propagacion, Estado Portugesa, Venezuela».У гэтай установе Дудзіцкі знайшоў неблагую працу і абараніў дыплём доктара ў галіне сельскагаспадарчых навук пад новым імем — Гіцкі.

Напружаная праца плюс знаёмствы і авантурны характар неўзабаве прынеслі плён. Як ацаніў сам Дудзіцкі, «посьпехі маю неблагія». Імя зрабілася вядомым, а гэта, у сваю чаргу, прывяло «да інтрыгаў і розных паклёпаў не з боку вэнэсуэльцаў, а з боку цэлай кучы ўсякіх «князёў», «баронаў» ды іншай расійскай трухлі».

Вось якраз у гэты час і атрымаў Уладзімір Дудзіцкі прапанову на пераезд у Нямеччыну — узначаліць Радыё «Вызваленьне».

У 1956 г. Уладзімер Дудзіцкі прыехаў у Мюнхен як новы дырэктар Радыё. Гэта быў плённы час для творчасьці, але няпросты побытава. Нехта з калегаў ня мог даравацаь «уласаўскага» эпізоду, хтосьці згадваў п'яныя выбрыкі — хоць, як сьведчаць вэтэраны Радыё, дырэктар мог выпіць цэбар гарэлкі і не заўсёды тое можна было спасьцерагчы.

Тады ж пачалі заўважаць за ім новую хваробу — манію перасьледу. Як згадваў Янка Запруднік, аднойчы жонка Дудзіцкага зазваніла да яго з просьбаю тэрмінова прыйсьці да іх. Дудзіцкі быў нападпітку, сям'я — жонка і дзеці — стаяла на лесьвіцы, а сам гаспадар нешта вышукваў у хаце. Калі ж абодва выйшлі на вуліцу, Дудзіцкі ўхапіў Запрудніка за паліто і сказаў: «Даражэнькі, нічога не магу зрабіць: як прыходжу з працы, заўсёды здаецца, што за дзьвярыма НКВД-ыст стаіць і чакае».

Зразумела, што доўга пратрымацца на пасадзе дырэктара Радыё Ўладзімер Дудзіцкі не мог. У 1962 г. уся сям'я выехала ў Нью-Ёрк, дзе паэт пэўны час працаваў пазаштатным карэспандэнтам «Вызваленьня», але і гэтая праца ішла з прыгодамі, таму ён ахвотна прыняў запросіны Масея Сяднёва на працу выкладчыка ў адной з навучальных установаў штата Індыяна. І гэта бадай апошнія дакладныя зьвесткі пра паэта.

Праз кароткі час Дудзіцкі ізноў зьнік. Ягоная сям'я па сёньня ня ведае, што адбылося. У беларускай грамадзе пачала хадзіць чутка, што паэт паехаў у БССР. Такія чуткі характэрныя для эміграцыі: тут не аднойчы «хавалі» Ўладзімера Дубоўку, Язэпа Пушчу, Ларысу Геніюш, а што да вяртаньня ў Саветы — хто як не былы ўласавец здатны на тое?! Фактаў ніякіх не было: проста «казалі» ды спасылаліся на «тых, хто казаў». Некаторыя, як Яніна Каханоўская, лічылі, што Дудзіцкі паехаў у Аргенціну, дзе эміграцыя была пераважна прасавецкаю, там напіўся і быў у нецьвярозым стане вывезены ў СССР.

Хоць у маёй прадмове да зборніка «Напярэймы жаданьням» было напісана пра вяртаньне Дудзіцкага ў Беларусь, сёньня тое выглядае не больш як даніна рамантычнаму патасу пачатку 1990-х гг. На цьвярозы лад, ня мог чалавек з біяграфіяй Дудзіцкага ў часе Другой Сусьветнай вайны ды з такой нянавісьцю да Саветаў настолькі засумаваць па Беларусі, каб паехаць туды. На гэта не наважыўся нават самы прасавецкі з эміграцыйных паэтаў, Уладзімер Клішэвіч. Тым больш — Дудзіцкі, з ягонай маніяй перасьледу, з абсалютна рэальным усведамленьнем, што менавіта яго чакае там па вяртаньні.

Значна больш рэальнай выглядае іншая вэрсія: што зноў, як у сярэдзіне 1950-х гг., Уладзімер Дудзіцкі сваім зьнікненьнем вырашыў уласныя сямейныя праблемы, кінуўшы жонку з дзецьмі дзеля мо чарговага каханьня і чарговай краіны. Як бачна зь ягонай біяграфіі, ён мог даць сабе рады ў гэтым жыцьці. І — хто ведае — можа быць, ён яшчэ жывы!

Выдадзеныя ў 2010 годзе ў Менску "Творы" Ўладзімера Дудзіцкага да 100-годдзя пісьменьніка, ёсьць найбольш поўным зборам ягонай творчасьці: паэзіі, прозы і ўспамінаў. Кніга зьмяшчае таксама бібліяграфічны камэнтар. На жаль, праз тэхнічныя непаразуменьні кніга выйшла без падрыхтаванага ілюстрацыйнага блёку. Але, як напісаў у нашаніўскай рэцэнзіі А. Сідарэвіч, "Калі да каго і стасуецца вядомае «напісанае застаецца» і «рукапісы не гараць», дык у немалой ступені да Уладзімера Дудзіцкага".

*Лявон Юрэвіч*

# БЕЛАРУСКІ МУЗЫЧНЫ КАЛЯНДАР: 2011 ПЕСЕНЬ ДА НОВАГА 2011 ГОДА

У Сеціве з'явіўся новы нацыянальны рэсурс - Беларускі музычны каляндар - ***http://calendar.secondbelarus.com***. Песьні разьмешчаныя сугучна сьвятам, сусьветным і міжнародным дням, гістарычным падзеям і дням нараджэння выканаўцаў, паэтаў, кампазітараў і іншых знакамітых асоб. Пакуль што там сімвалічна 2011 песень да Новага 2011 году, але праект прэтэндуе на ролю грунтоўнага аўдыёкаталёга беларускіх твораў у будучым.

Галоўны прынцып палягае ў фармальнай адпаведнасці песень каляндарным датам: ніводнай даты без песьні і ніводнай песьні без даты. Пры гэтым не прымаліся ў разьлік ні так званая мастацкая вартасьць, ні музычны стыль, ні вядомасьць выканаўцаў, ні суладнасць песень, змешчаных на адной старонцы. Звычайна першымі ідуць творы, адпаведныя святам і міжнародным дням, потым - падзеям і нарэшце - дням нараджэньня. Я не імкнуўся да раўнамернага размеркаваньня песень і выканаўцаў па датах. Каляндарная адпаведнасць і мастацкая вартасць - незалежныя пераменныя. Часта добрую лірычную песьню ўкаляндарыць цяжка, песьні рэдка пішуцца пад канкрэтныя даты.

Кожнаму дню года ў Інтэрнэт-каляндары адпавядае канкрэтная старонка, на якую песьні пастаўлены ў фармаце мроіва-ролікаў - запісаў разнастайных візуалізатараў для папулярнага музычнага браўзера iTunes. Слухаць песьні раім, сузіраючы зменлівае камп'ютэрнае мроіва. Пры фактычнай адсутнасці відэа з рэальнага свету прапанаваны фармат з'яўляецца не такім безаблічным, як аўдыёзапісы і не так ачмурае, як кліпы, наадварот, дае магчымасць удумліва слухаць і разьвівае фантазію.

Старонкі тых датаў, на якія прыпадае больш песень, могуць грузіцца доўга. Аднак загружанай адзін раз старонкай можна карыстацца цэлы дзень, запускаючы з яе песні - і каляндарна прызначаныя, і асацыяваныя - пры жаданні, шмат разоў. Калі песьняў занадта ўжо багата, старонак на адну дату даецца дзве - да і пасля абеду. Акрамя мроіва-ролікаў на пэўны дзень, ёсць спецыфічныя - пра пэўны горад, пэўную пару году, пэўнае надвор'е.

Каляндар атрымаўся дэмакратычным: у ім знайшлося месца і заслужаным мэтрам-клясыкам, і музыкам-пачаткоўцам. Азначэнне "беларускі музычны" даволі шырокае: ёсць і песні на іншых мовах (іх няшмат), і вершы без музыкі, а таксама шумавыя кампазіцыі.

Ідэя сабраць разам беларускія песьні, рассыпаныя па ўсім Сеціве на малавядомых сэрвісах, з'явілася год таму ў навагоднюю ноч. Задаўшыся мэтаю, я менш як за 365 дзён пасьпеў апрацаваць 2011 песень. Гэтым Календаром я віншую беларусаў і аматараў беларускай культуры з Новым 2011 годам.

Праект працуе ад пачатку снежня 2010, кожны дзень наведніка сайта сустракае адпаведная дата. Зьмена яе адбываецца раніцаю паводле беларускага часу. Гэта робіцца таму, што Каляндар разлічаны на беларусаў усяго свету, а не толькі на Рэспубліку Беларусь. Так, амерыканскі беларус, напрыклад, увесь дзень бачыць правільную дату, нягледзячы на тое, што ў начной Беларусі фармальна ўжо надыйшло заўтра.

Рэсурс будзе карысным перадусім настаўнікам гісторыі і музыкі, бо прапануе песні пад канкрэтныя падзеі, што важна для арганізацыі тэматычных школьных імпрэзаў. Разам з тым ён дапаможа кожнаму, хто хоча нязмушана і нетаропка (на працягу года) пазнаёміцца з беларускай песенна-музычнай культурай, а спадарожна і вывучыць помныя даты беларускай гісторыі.

*Аўтар праекту*
*Уладзімір Слабін*

## Беларусы Нью-Ёрку разам сустракалі Новы год

31 студзеня ўвечары ў грамадзкай залі Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага сабраліся сябры Бруклінскага аддзелу БАЗА і прыхажане Сабору каб разам сустрэць наступленьне Новага 2011 году. Заля была прыгожа аздоблена, жанчыны прыгатавалі смачныя пачастункі. Усё было зроблена для таго, каб стварыць сьвяточную атмасфэру і каб людзі адчувалі сябе ўтульна і адпачылі душою ў добрай сяброўскай супольнасьці. З такімі думкамі рыхтавалася сьвята, але такім яно не атрымалася.

Кожнаму ў галаве сьвідравалі думкі пра тое, што адбываецца на Бацькаўшчыне, пра лёсы арыштаваных сяброў і знаёмых. Пра гэта ўвесь час гаварылася за сьвяточным сталом.

Старшыня Парафіяльнай Рады сп. Расьціслаў Гарошка прывітаў прысутных і сказаў, што вось мы тут у Амэрыцы рыхтуемся сустрэць Новы 2011 год, а Беларусь ужо сустрэла новы 1937 год. Гэты сумны зварот яшчэ раз нагадаў пра тое, якімі невясёлымі сёлета для беларусаў сталіся Калядныя і Навагоднія сьвяты, якія шчаасьліва адначаліся па цэлым сьвеце. Падымаючы кілішкі за Новы год жадалі сваёй Бацькаўшчыне і ўсім беларусам мужнасьці, вытрываласьці і надзеі на тое, што 2011 год стане апошнім для дыктатарскага рэжыму ў Беларусі і адчыніць дарогу ў лепшую будучыню для ўсіх нас.

*Ганна Сурмач*

## Сьвяткаваньне ялінкі ў Саўт Рыверы

У нядзелю 9 студзеня, пасьля багаслужбы ў царкве сьв. Еўфрасіньні Полацкай, у залі Беларуска-Амэрыканскага Цэнтру адбылася традыцыйная дзіцячая ялінка. Удзельнікі сьвяткавальнай праграмы дэклямавалі беларускія вершы й сьпявалі беларускія й амэрыканскія калядкі пад музыку сям'і Валянціна й Тацьцяны Дзямешчыкаў ды іхных дзяцей, Вольгі й Сяргея. Бацькі й дзяды ўдзельнікаў праграмы, а таксама настаяцель царквы сьв. Еўфрасіньні Полацкай а. Міхаіл разам з прыхаджанамі, прыемна правялі час у вясёлай атмасфэры, удзячныя за сьвяточны настрой. Сястрыцтва царквы, а таксама бацькі дзяцей і некаторыя прыхаджанкі, парупіліся аб смачнай ежы й ласунках-пачастунках, якія дзеці шчодра раздавалі прысутным. Шумлівую грамаду малых і моладзі наведаў беларускі Дзед Мароз (сп. Ігар Шаройкін) з торбай цукерак. А на заканчэньне прыбыў на пажарнай машыне й амэрыканскі Санта Клаўс з торбай падарункаў. На чыпсах фота- і відэаапаратаў засталося мноства радасных мамэнтаў для сучаснай пацехі й будучых успамінаў. Падрыхтоўкай праграмы сьвяткаваньня займалася спадарыня Тацьцяна Дзямешчык пры актыўнай дапамозе бацькоў дзяцей, якія ўдзельнічалі ў гэтым сьвяткаваньні для ўсіх пакаленьняў.

*(Я.З.)*



## Калядная ялінка ў беларускай праваслаўнай катэдры ў Нью-Ёрку



У нядзелю 9 студзеня 2011 г., пасьля архірэйскае Літургіі ў Катэдральным Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Нью Ёрку, у грамадзкай залі праводзілася Калядная Ялінка для дзяцей, у якой прынялі ўдзел і іхныя бацькі - беларускія эмігранты з Нью Ёрку і ваколіцаў. Сьвята ладзілі сумесна Царкоўная Рада і Бруклінскі аддзел БАЗА.



Дзеткі сьпявалі песьні, расказвалі вершы, за што атрымлівалі падарункі ад Сьвятога Мікалая. Потым разам з бацькамі вадзілі карагод. Хор пад кіраўніцтва сп-ні Алы Орса Рамана з натхненьнем сьпяваў Калядкі. Лівія Орса Рамана прыгожа прасьпявала песьню на ангельскай мове, а Уля і Глеб Драгакупцы сыгралі на піяніна клясічныя творы.

Некалькі Калядак прасьпяваў прысутны ў залі знакаміты беларускі сьпявак Данчык, які сваім дасканалым сьпевам яшчэ больш упрыгожыў Сьвята.

Доўга яшчэ не расходзіліся беларусы, сьвяткуючы Каляды.



# У Амэрыцы гучыць беларуская музыка

*(а пачыналася ўсё на Радзіме)*

Сярод эмігрантаў, якія прыехалі з Беларусі ў Амэрыку цягам апошніх пару дзесяткаў гадоў, на жаль, ня вельмі многа тых, хто актыўна ўдзельнічае ў грамадзкіх эміграцыйных арганізацыях і акцыях. Аднак, сярод гэтых людзей ёсьць і тыя, для якіх беларуская духоўнасьць у розных яе праявах і сёньня – галоўнае ў іх жыцьці, марах, у імкненьнях выявіць сябе і тут, у новай для іх краіне. У тым, што гэта так, мяне пераканалі нядаўнія сустрэчы і гутаркі з Анатолем Лысенкам і Людмілаю Лакісавай, сёньняшнімі жыхарамі Чыкага, але былымі выхаванцамі музычных навучальных установаў у Менску.

Анатоль Лысенка сёньня кіруе ўжо даволі вядомым у Чыкага камерным сімфанічным аркестрам “Tutti” (“Усе разам” – менавіта так ён перакладае гэтую назву). Аркестр стварыў ён сам з дапамогай арганізацыі American Music Festival, якая ажыцьцяўляе канкрэтныя музычныя творчыя абмены між рознымі краінамі. Пра асноўную мэту свайго калектыву Анатоль Лысенка гаворыць так: “Мы імкнемся да ўзаемапранікненьня розных музычных культураў і, у прыватнасьці, да ўдзелу беларускай музыкі ў гэтым працэсе. Я лічу, што гэта ня проста абмен, а ўзаемапранікненьне. І гэтаму мы прысьвячаем свае веды, здольнасьці, свае таленты. Таму мы плянуем часцей уключаць творы беларускіх кампазітараў у свае праграмы”.



У канцэртах аркестра “Tutti” ўжо неадназарова гучалі творы аўтараў з Беларусі. З вялікай цікавасьцю сустрэлі слухачы выкананьне “Канцэрта для цымбалаў з аркестрам” сучаснага беларускага кампазітара Уладзіміра Кур’яна. Анатоль Лысенка зрабіў своеасаблівую рэдакцыю гэтага твору, напісаў кадэнцыі да яго. Саліравала выдатная цымбалістка Ірына Грыгаровіч, якая таксама жыве ў Чыкага. Выканаўцы падкрэсьлілі незвычайнасьць, меладычную і рытмічную шматпланавасьць гэтага твору, дзе цікава менавіта спалучэньне народных мелёдый і клясычных інтанацый у сучаснай паліфаніі. У праграмах “Tutti” гучаў і “Беларускі сувенір” вядомага кампазітара Яўгена Глебава. Анатоль Лысенка ўважліва прааналізаваў некалькі варыянтаў гэтага твору і зрабіў сваю рэдакцыю, сваю аркестроўку. Ён жа зрабіў варыянт для сімфанічнага аркестру балету Яўгена Глебава “Маленькі прынц” і ягонай “Палескай сюіты”. Анатоль зацікавіўся таксама творамі беларускага кампазітара Дзімітрыя Смольскага, ён аркестраваў для сімфанічнага аркестру яго цымбальны канцэрт. Гэты твор выконваўся аркестрам “Tutti” і салісткай Ірынай Грыгаровіч і быў вельмі добра прыняты слухачамі. Для выкананьня некаторых твораў беларускай музыкі Анатоль Лысенка запрашаў і вядомых амэрыканскіх дырыжораў, у прыватнасьці, Філіпа Сіманса.

Анатоль гаворыць, што ягонае творчае захапленьне творамі беларускіх кампазітараў пачалося даўно, яшчэ ў той час, калі ён у Менску стаў кіраўніком сімфанічнага аркестра музычнай школы пры Белдзяржфілармоніі. Тады ён у рамках рэспубліканскага конкурсу сімфанічных аркестраў падрыхтаваў выкананьне Першага канцэрту для фартэпіяна Сяргея Пракоф’ева. А саліравала ў тым канцэрце Людміла Лакісава. Працай па аранжыроўцы сімфанічных твораў Анатоль Лысенка у той час не мог актыўна займацца таму, што быў вельмі заняты выкладчыцкай працай у Беларускай кансэрваторыі – выкладаў дырыгаваньне.

“Мае адносіны да Беларусі – як да маці, якая нарадзіла і выхавала цябе, – усхвалявана гаворыць Анатоль, – Маці, якую не выбіраюць: яе Бог паслаў. Да таго ж я нарадзіўся не ў Беларусі. Але вучыўся і працаваў у Менску ў музычным вучылішчы і ў Беларускай кансэрваторыі, потым закончыў і Маскоўскую кансэрваторыю – сімфанічны факультэт. Тым ня менш Беларусь для мяне – гэта аснова, гэта вельмі важны этап у жыцьці і творчасьці. Сувязі з яе музычнай культураю хочацца працягваць і надалей”.

Пра свае беларускія карані ўсхвалявана расказвае і выдатная піяністка Людміла Лакісава. “Усё маё жыцьцё да Амэрыкі зьвязана перш за ўсё з Беларускай кансэрваторыяй, са школай пры ёй і з вучобай у самой гэтай установе. 25 гадоў я пражыла на Пляцу Волі, дзе знаходзіцца Кансэрваторыя, і на Старавіленскай у інтэрнаце. Прыехала ў Менск з Полацку, дзе нарадзілася, многім абавязана маім выдатным педагогам – Людміле Барташэвіч, Валерыю Шацкаму, Серафіме Бялькевіч ды іншым. Апошнія два гады ў Беларусі я вучылася ў акампаніятарскай асьпірантуры. Выдатны педагог Серафіма Бялькевіч ухваліла рашэньне нашай сям’і з’ехаць у Амэрыку і сказала, што яна ўпэўнена, што я і там прафесійна буду на ўзроўні і высока панясу сьцяг нашай беларускай школы. 2 лістапада 1995 году я абараніла дысертацыю, а 30-га мы паляцелі ў Амэрыку”.

Першыя сольныя канцэрты Людмілы Лакісавай у Чыкага былі цалкам беларускія. Некалькі разоў яна выступала разам з вядомай цымбалісткай Ірынай Грыгаровіч. Сталую працу распачынала ў аркестры пры царкве ў чыкагскім прыгарадзе Лонг Гроў; яна і зараз кіруе гэтым аркестрам. Калі ў Чыкага прыехаў дырыжор Анатоль Лысенка і з’явіўся аркестр “Tutti”, стала ўдзельнічаць у асобных канцэртах гэтага калектыву. Падтрымлівае ўвесь час сяброўскія і творчыя кантакты з піяністкай Ірынай Лупініс, якая цяпер жыве ў Рочэстэры. А знаёмыя яны яшчэ з дзіцячых гадоў у Менску, дзе вучыліся разам у музычнай школе і жылі ў адным інтэрнаце. Зусім нядаўна ў адным з апошніх выступленьняў аркестра “Tutti” Людміла Лакісава і Ірына Лупініс разам саліравалі ў “Канцэрце для двух фартэпіяна” І.Баха, які ў наш час гучыць даволі рэдка. Канцэрт гэты пад кіраўніцтвам дырыжора Анатоля Лысенкі прайшоў з вялікім посьпехам.

Сам Анатоль Лысенка працягвае рыхтаваць творы беларускіх кампазітараў для канцэртнага выкананьня. Заканчвае аркестроўку для сімфанічнага аркестра твораў для скрыпкі, якія напісаў Леў Абеліёвіч. Даўно цікавіцца творчасьцю кампазітара Дзімітрыя Смольскага, плянуе аркестраваць для сімфанічнага аркестра яго Першы цымбальны канцэрт і іншыя творы. Цікавай для амэрыканскага слухача лічыць Анатоль Лысенка музычную спадчыну Яўгена Глебава, разам з Людмілай Лакісавай плянуе ўключэньне ў канцэртныя праграмы твораў арыгінальных беларускіх кампазітараў Галіны Гарэлавай, Рыгора Суруса ды іншых. У нашай апошняй гутарцы Анатоль Лысенка падкрэсьліў, што яго цікавіць беларуская музыка, якая, згодна ягонага ўспрыйманьня, крыху амэрыканская па складу, па настрою, па інтанацыях. Таму яму і хочацца данесьці яе слухачам тут, у Амэрыцы, каб пашырыць іх вобразна-музычны далягляд.

Пажадаем Анатолю Лысенка, Людміле Лакісавай, Ірыне Грыгаровіч, Ірыне Лупініс ды іншым выхаванцам беларускай музычнай школы, якія сёньня жывуць і працуюць у новым эміграцкім асяродзьдзі, добрага натхненьня і выдатных творчых посьпехаў.

*Ванкарэм Нікіфаровіч*
*Чыкага*

# Посьпех беларускіх артыстаў у Нью-Ёрку

Беларускі Свабодны тэатр з 5 па 16 студзеня браў удзел ў Фэстывалі альтэрнатыўных тэатраў у Нью-Ёрку. Група выступала на сцэне эксперымэнтальнага тэатру “La MaMa” у Мангэттане, дзе некалі пачыналі сваю акторскую кар’еру Робэрт дэ Ніро і Аль Пачына. Спэктаклі праходзілі пры поўным аншлягу. Як паведамлялася ў друку, на першым спэктаклі публіка вітала беларускіх артыстаў стоячы 3-хвілінай авацыяй. Ашаламляльны посьпех суправаджаў артыстаў цягам усяго фестывалю. Адбывалася гэта яшчэ і таму, што вядучыя амэрыканскія медыі надзялілі тэатру з Беларусі надзвычайную ўвагу.




The New York Times ў выпуску за 5 студзеня, у дзень адкрыцьця Фэстывалю, зьмясьціла артыкул Лэрры Потэра пад загалоўкам “Уцёкшыя з Беларусі акторы ўздымаюць свае галасы” (Escaped from Belarus, Actors Raise Voices), да якога былі дададзеныя фотаздымкі актораў і кіраўнікоў тэатру.

Два дні пазьней вядучы тэатральны крытык гэтай газэты Бэн Брэнтлі (Ben Brantley) апублікаваў сваю рэцэнзію “Палітычны тэатр, прапанаваны вам тымі, якія палітычна бяссільныя” (Political Theater, Brought to You by the Politically Powerless) на спектакль тэатру паводле твораў Гарольда Пінтэра. Аўтар высока ацаніў майстэрства беларускіх актораў і рэжысёра, якія здолелі творча асэнсаваць філязофію Гарольда Пінтэра і данесьці да гледачоў усю глыбіню ягонага бачаньня сутнасьці палітычных працэсаў ў таталітарным грамадзтве, дзе правяць сіла і гвалт, што сёньня надзвычай актуальна для Беларусі. Па меркаваньню крытыка, беларускі тэатр паказаў нью-ёркцам сапраўднага Пінтэра, ягоную экспрэсію, ягоны востры пратэст супроць усяго, што абмяжоўвае свабоду чалавека. Гэтая высокая ацэнка мэтра тэатральнага жыцьця ў Нью-Ёрку Бэна Брэнтлі выклікае пачуцьцё гонару за нашых творцаў.

*Ганна Сурмач*
*Нью-Ёрк*

## Сьв. пам. Тацяна Сапач

*(26 жніўня 1962 – 28 сьнежня 2010)*



28 сьнежня 2010 у Літве пад Алітусам у аўтакатастрофе загінула Тацяна Сапач – вядомая беларуская журналістка і паэтка. Тацяна са сваім мужам, таксама вядомым журналістам Сяргеем Дубаўцом вярталіся ў Вільню з Польшчы ад дачкі Адэлі, якая тыдзень таму нарадзіла ім унучку.

Тацяна Сапач нарадзілася 26 жніўня 1962 году ў вёсцы Маркава на Маладэчаншчыне. Скончыла факультэт журналістыкі БДУ. Пасьля заканчэньня вучобы працавала ў Берасьці, Гомелі, Менску. Брала дзейсны удзел у беларускім Адраджэнскім руху, была сяброўкаю вядомай маладзёвай адраджэнскай суполкі “Майстроўня”. На пачатку 90-х Тацяна з мужам Сяргеем Дубаўцом пераехалі ў Вільню і там апынуліся ў гушчыні падзеяў абароны літоўцамі сваёй нацыянальнай незалежнасьці. Таня адразу далучылася да шэрагаў абаронцаў Віленскай тэлевежы і заклікала беларусаў Літвы падтрымаць незалежнасьць краіны ў яе шляху да свабоды. Потым літоўскае тэлебачаньне запрасіла Таню рабіць перадачу для беларусаў Літвы. Гэтай перадачы "Віленскі сшытак" нядаўна споўнілася 20 гадоў. "Віленскі сшытак" згуртаваў вакол сябе шырокае кола беларускіх творцаў і грамадзкіх дзеячаў, якія жывуць у Літве.

Тацяна Сапач — аўтарка двух паэтычных зборнікаў. Яе першая кніга "Восень", якая выйшла ў 1992 годзе, сталася падзеяй беларускай паэзіі. У 2008 годзе пабачыў сьвет ейны новы зборнік “Няхай не пакіне нас восень”.

Рэдакцыя газэты “Беларус” выказвае шчырыя спачуваньні Сяргею Дубаўцу і ўсёй сям’і Тацяны.

# Каляндар памятных датаў на люты 2011 г.

*4 лютага*
80 гадоў таму, у 1931 годзе, памёр (скончыў жыцьцё самагубствам пасьля допытаў у КДБ) Усевалад Ігнатоўскі – першы прэзыдэнт Беларускай акадэміі навук.

*5 лютага*
95 гадоў таму, у 1916 годзе, нарадзілася Валянціна Пашкевіч (Жукоўская), дзеячка беларускай эміграцыі ў Канадзе, аўтарка падручнікаў і Ангельска-беларускага слоўніка.
10 гадоў таму, у 2001 годзе, памёр Масей Сяднёў, літаратар, дзеяч беларускай эміграцыі ў ЗША.

*6 лютага*
105 гадоў таму, у 1906 годзе, нарадзіўся Тамаш Падзява, каталіцкі сьвятар-марыянін, рэлігійна-культурны дзеяч.

*7 лютага*
130 гадоў таму, у 1881 годзе, нарадзіўся Рамуальд Зямкевіч, бібліёграф, публіцыст, краязнавец
120 гадоў таму, у 1881 годзе, памёр Вінцэнт Каратынскі, паэт, публіцыст, перакладчык.

*8 лютага*
90 гадоў таму, у 1921 годзе, нарадзіўся Іван Мележ, пісьменьнік, аўтар "Людзі на балоце".

*12 лютага*
265 гадоў таму, у 1746 годзе, быў ахрышчаны ў Косаўскім касьцёле Тадэвуш Касьцюшка, удзельнік паўстаньня 1794 году

*14 лютага*
105 гадоў таму, у 1906 годзе, нарадзіўся Мікола Улашчык, гісторык, этнограф, археоляг, краязнавец.

*15 лютага*
85 гадоў таму, у 1926 годзе, нарадзіўся Мікола Ягоўдзік, вайсковец, дзеяч бедарускай эміграцыі ў Бэльгіі і ЗША.

*17 лютага*
95 гадоў таму, у 1916 годзе, памерла Алаіза Пашкевіч (Цётка), асьветніца, паэтка, грамадзка-палітычная дзеячка.

*18 лютага*
55 гадоў таму, у 1956 годзе, памёр Янка Быліна, каталіцкі сьвятар, пісьменьнік, паэт.

*19 лютага*
110 гадоў таму, у1901 годзе, нарадзіўся Сяргей Бусел, нацыянальны дзеяч, адзін з кіраўнікоў Слуцкага паўстаньня.

*21 лютага*
Міжнародны дзень роднай мовы.

*23 лютага*
120 гадоў таму, у 1891 годзе, нарадзіўся Міхась Піятуховіч, літаратуразнавец, педагог.

*25 лютага*
105 гадоў таму, у 1906 годзе, нарадзіўся Павал Каруза, грамадзка-палітычны дзеяч, кампазітар, этнамузыказнавец

*26 лютага*
120 гадоў таму, у 1891 годзе, нарадзіўся Язэп Лагіновіч, дзеяч заходнебеларускага нацыянальнага руху, удзельнік Слуцкага паўстаньня.

**28 лютага**
95 гадоў таму, у 1916 годзе, у Вільні выйшаў першы нумар беларускай грамадзка-палітычнай і літаратурнай газэты "Гоман" (Homan).

## Навукова-выдавецкая хроніка й выдавецкія пляны Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва

У супрацўоніцтве Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва з Польскай Акадэміяй Навук выйшла ў 2009 годзе вялікая кніга Юрася Гарбінскага "Беларускі рэлігійны друк на Захадзе (1945-2005)". Цяпер сп. Гарбінскі падрыхтаваў да друку працу пад заг. "У малітве за Беларусь" пра архіепіскапа БАПЦ Мікалая (Мацукевіча), якая выйдзе пад грыфам БІНіМ, Катэдры Беларусістыкі Варшаўскага Ўнівэрсітэту й Інстытуту Славістыкі Польскай Акадэміі Навук. У кнізе багаты матэрыял пра жыцьцё й дзейнасьць уладыкі Мікалая, у тым ліку шматлікія ўспаміны пра яго.

У сэрыі "Галасы Айчыны" ў Менску, супольна зь БІНІМам, апублікаваныя "Творы Ўладзіміра Дудзіцкага" пад рэдакцыяй Лявона Юрэвіча. Дарэчы, гэта -- першае на Бацькаўшчыне выданьне твораў Дудзіцкага. А ў БІНІМе гэта ўжо другое, а першае выйшла ў Нью Ёрку ў 1994 годзе (рэдактар Л. Юрэвіч, а бібліяграфія й камэнтары Алены Юрэвіч).

У рэдакцыйнай апрацоўцы знаходзіцца манускрыпт працы сп-ні Ганны Сурмач, які ў выдавецтве БІНІМу выйдзе кнігай пад заг. "Беларусь па-за Беларусяй". Гэта - зборнік аўтарскіх гутарак з эмігрантамі-беларусамі на ўсіх кантынэнтах. Бальшыня гэтых гутарак перадавалася на хвалях радыё "Свабода". Сп-ня Сурмач ставарае выдатную панараму ня толькі жыцьця паасобных людзей і сем'яў, але й дае шмат дэталяў арганізацыйнае дзейнасьці беларускае эміграцыі.

Як паведамляе бюлетэнь (зімовы выпуск 2010-2011гг.) Цэнтру дасьледаваньняў гісторыі іміграцыі ЗША (горад Мінэапаліс, штат Мінэсота), беларускі дасьледнік а. Ігар Лабацэвіч разам зь беларускімі архівамі апрацоўвае й архівы іншых славянскіх народаў. Дарэчы, у архівах Цэнтру дасьледаваньняў знаходзяцца шмат якія дакумэнты да гісторыі беларусаў Амэрыкі, а гэта -- архівы беларускае парафіі сьв. Юрыя ў Чыкага ды архівы нябожчыкаў, жыхароў Чыкага, Часлава Будзькі, Вацлава Пануцэвіча, Антона Бяленіса, Васіля Пунтуса, а таксама беларускіх фэстываляў у штаце Нью Джэрзі.

Др. Янка Запруднік апрацоўвае гісторыю беларускіх фэстываляў і выставаў у штаце Нью Джэрзі пад заг. "Палітычная інфармацыя моваю мастацтва (1948-2010)". Багата ілюстраваная кніга будзе ў дзьвюх мовах, беларускай і ангельскай – з тэкстамі паралельнымі зьместам , але не ідэнтычнымі. Калі хто мае цікавыя здымкі з фэстываляў і выставак у Нью Джэрзі, ямчэ не запозна ўключыць іх у публікацыю. Зьвяртацца трэба да аўтара.

Спадарычна Тацьцяна Кулакевіч, дактарантка Ньюёркаўскага ўнівэрсытэту, у праграме сэмінараў гуманістыкі й сацыяльных навукаў апрацоўвае бібліяграфію-аналіз беларусікі ў "Кангрэсавых Запісах" (Congressional Record), пры гэтым дасьледніца ахоплівае пэрыяд ад другое палавіны 19-га стагодзьдзя і да сучаснасьці. Сп. Лявон Юрэвіч у Публічнай бібліятэцы Нью Ёрку апрацоўвае матэрыялы для манаграфіі аб беларускай архівальна-інтэлектуальнай спадчыне ў ЗША.

*Дырэктар БІНІМа*
*Вітаўт Кіпель*

## На выданьне газэты "Беларус" ахвяравалі:

| | |
|---|---|
| Г. Адоніс. | $ 200 |
| У. Арцюх | $ 120 |
| К. Вініцкая | $ 100 |
| Р. Гарошка | $ 50 |
| А. Дарагакупец | $ 50 |
| Е. Завістовіч | $ 50 |
| В. Кіпель | $ 250 |
| Т. Красоўская | $ 50 |
| Ю. Лісоўская | $ 50 |
| А. Лістоўская | $ 100 |
| В. Нікіфаровіч | $ 50 |
| Э. Норык | $ 50 |
| Л. Пузач | $ 50 |
| У. Ракуць | $ 100 |
| Н. Старавойтава | $ 50 |
| Н. Ягорава | $ 80 |
| Спадарства Будкевічаў | $30 |
| Г. Жызьнеўская | $ 60 |
| А. Самадзелкава | $ 50 |

*Усім ахвярадаўцам - ШЧЫРЫ ДЗЯКУЙ!*

## Шаноўныя сябры!

"Беларус" патрабуе фінансавай падтрымкі, каб жыць далей, каб ісьці ў новае сёмае дзесяцігоддзе. Хто ж яе падтрымае, акрамя нас - беларусаў? Мусім і надалей мець і выдаваць на сучасным узроўні свой друкаваны орган, які лучыць нас на чужыне ў адзіную супольнасьць.
Вы можаце быць не толькі чытачамі, але і аўтарамі публікацыяў, інфармацый пра мяйсцовае беларускае жыцьцё ці аб'яваў на розныя тэмы. **Дасылайце інфармацыі для друку на паштовы альбо электронны адрас Рэдацыі** і мы будзем радыя публікаваць іх.
**Грашовы чэкі патрэбна выпісваць на імя: *BIELARUS newspaper*, дасылаць на адрас: PO BOX 1958, New York, NY 10025** (адрасат не указваць)

*Рэдакцыйная калегія*

**Бруклінскі Аддзел БАЗА** запрашае беларусаў у Нью-Ёрку далучыцца да нашай дзейнасьці. Жадаючыя могуць знайсьці нас па пададзенаму ніжэй адрасу. Па гэтаму адрасу кожную нядзелю пасьля царкоўнай службы вы можаце пазнаёміцца з сябрамі Аддзелу і распытаць пра тое, што вас цікавіць ці падаць Заяву стаць сябрам арганізацыі.
Ужо дзейным сябрам Аддзелу нагадваем, што сяброўскія складкі памерам 30 дал. грашыма ці чэкам, вы можаце даслаць на наш адрас:
Belarusan American Association, Inc.
Brooklyn Chapter
401 Atlantic Ave.
Brooklyn, NY 11217-1702

*Старшыня*
*Др. Расьціслаў Гарошка*

**БЕЛАРУС**
*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*
Выдае:
*Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне*

**BIELARUS**
*Belarusan Newspaper in the Free World*
Published by
*Belarusan American Ass'n, Inc.*

**Склад Рэдакцыі:**
Ганна Сурмач – адказны рэдактар (surmacova@gmail.com)
Андрусь Падлескі – адказны за кампутарную вёрстку
Таня Красоўская – скарбнік, арганізатар падпіскі (premiere718@yahoo.com)
Галіна Падлеская – рэдактарка дзіцячай старонкі galinapodles@hotmail.com
Валеры Дворнік - адказны за друк
Натальля Старавойтава - адказная за рассылку газэты

Артыкулы падпісаныя прозьвішчамі ці ініцыяламі, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не пагаджаецца.

**Адрасы Рэдакцыі:**
Паштовы адрас:
***Hazeta Bielarus***
***166-34 Gothic Drive***
***Jamaica, NY 11432***
***USA***

**Электронны адрас (email):**
**bielarus@bazahq.org**

*Адказнасьць за зьмест рэклямы нясе рэклямадаўца.*